ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

11 ЖНІЎНЯ 1995 г. № 32 (3804) Кошт 2 000 руб.





## МАЙСТРАМ ДАПАМОЖА "БЕРАГІНЯ"



Салон з прыгожай назвай "Берагіня" (ад імя паганскай багіні) — выставачны магазін ад Саюза майстроў народнай творчасці — адчыніўся прыгожа і нават шыкоўна, з прамовамі, чырвонай стужачкай, спевамі, нязменным, па сённяшнім часе, фуршэтам. Праўда, да гэтага былі не дні, гады намаганняў да яго стварэння. І калі спачатку перашкодай была адсутнасць разумення ў "вярхах", то цяпер — адсутнасць грошай. Яўген Сахута, старшыня саюза, палічыў падарункам лёсу сваё знаёмства з генеральным дырэктарам прадпрыемства "Магма" Уладзімірам Крукам, які перарабіў пад салон "Берагіня" палову магазіна фірмы. Усе выдаткі на сучасныя стэнды, прыгожае афармленне прадпрыемства ўзяло на сябе. А ўрэшце выйгралі майстры, што атрымалі магчымасць абсалютна афіцыйна прапаноўваць не падробкі, а сапраўдныя творы народнага мастацтва з дрэва, саломкі, шкла, керамікі пакупнікам.

Наперадзе — адкрыцці падобных салонаў у абласных цэнтрах Беларусі.

*На здымках: на адкрыцці салона генеральны дырэктар прадпрыемства "Магма" У. КРУК і старшыня Саюза народных майстроў Я. САХУТА; з экспазіцыі салона; выступае У. ПУЗЫНЯ.*

*Фота А. МАЦЮША*



## ЧЫТАЙЦЕ "ЛіМ"!

**Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа"!**

**На Беларусі працягваецца падпіска на газеты і часопісы на IV квартал гэтага года. Як і ўсе папярэднія, яна хуткацечная: да канца падпісной кампаніі застаецца менш за тры тыдні. А таму — не адкладвайце на заўтра тое, што варта зрабіць сёння. Падпішыцеся на "ЛіМ" — і наш тыднёвік будзе сам прыходзіць да Вас кожную пятніцу. Гэта пазбавіць Вас неабходнасці шукаць "ЛіМ" у шапіках "Саюздруку", да таго ж кошт аднаго нумара па падпісцы значна таннейшы.**

***Падпісны кошт на 3 месяцы — 30000 рублёў, на 1 месяц — 10000 рублёў.***

**Наш індэкс — 63856.**

***Падчас прэзідэнцкіх выбараў сп. Лукашэнка шмат чаго абяцаў. Калі б тыя абяцанкі здзейсніліся, дык сёння нашаму заможнаму жыццю зайздросціла не толькі Жамойць і Польшча, але і Швейцарыя з Германіяй. Але зайздросціць няма чаму... Днямі ў інтэрв'ю тэлепраграме "Вертыкаль" прэзідэнт назваў свэй галоўнае тое, што "никто пока не умер с голоду и не голые по улице ходят". Ды, мабыць, гэта заслуга найперш саміх грамадзян, якія нягледзячы ні на што, усё яшчэ маюць што есці і ў што апранууца. А мо сапраўды толькі "пока"?***

## АБЯЦАННЕ ТЫДНЯ

Мінскі мясакамбінат пастаўляе ў гандлёвую сетку толькі 30 працэнтаў прадукцыі ад неабходнай сталіцы колькасці. Рэч у тым, што з ліквідацыяй мяжы з Расіяй, мяса "плыве" туды, дзе за яго болей плацяць. У Расію. Каб абараніць унутраны рынак, міністр сельскай гаспадаркі Беларусі паабяцаў забараніць вываз за мяжу мясных прадуктаў. Вось вам і "адзіная мытная прастора"!

## ПРЫМІРЭННЕ ТЫДНЯ

Пасля скандалу, звязанага з абвінавачаннем турэцкіх дыпламатаў у Беларусі ў шпіянажы, адносіны паміж Турэцкай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь былі вельмі прахалодныя. 7 жніўня ў Беларусь прыбыў з афіцыйным візітам міністр замежных спраў Турцыі Эрдал Інёню. Сп. Лукашэнка назваў гэты візіт "добрым крокам пасля ўсялякага роду непаразуменняў, якія існавалі ў апошні час паміж нашымі краінамі". Турэцкі госць у адказ запэўніў, што "не існуе ніякіх праблем, якія б маглі перашкодзіць умацаванню нашых узаемаадносін".

## ПАГРОЗА ТЫДНЯ

У. Замяталін, начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі пры прэзідэнце, накіраваў намесніку старшыні Дзяржаўнай думы РФ сп. Г. Селязнёву абуральны ліст з нагоды публікацыі ў "Комсомольской правде" артыкула М. Ефімовіча "Батька Лукашенко". Палкоўнік Замяталін прыгразіў скасаваць дамовы ба распаўсюджанні ў Беларусі расійскіх выданняў, калі тыя будуць гэтак пісаць пра "бацьку". Расейскім журналістам варта было б задумацца і прыгадаць горкі вопыт іх беларускіх калег, бо калі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка стане прэзідэнтам Расіі (наступная публікацыя "КП" за 8 жніўня — "Александр Лукашенко хочет стать президентом России"), то ён прыгадае рэдактарам многіх выданняў усе іх грахі і грашкі.

## СТРАТА ТЫДНЯ

Памёр апошні жыхар вёскі Якубоўшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. У бліжэйшы час плануецца выкрасліць Якубоўшчыну з Дзяржаўнага рэестра паселішчаў Беларусі. Горкі сімптом — папярэджанне нацыі пенсіянераў.

## ЭКАНОМІЯ ТЫДНЯ

У Мінскім гарвыканкаме скарочана пасада кансультанта-рады па экалогіі пры старшыні Мінгарвыканкама. Не інакш, у Мінску экалагічныя праблемы ўжо вырашаны, калі можна на іх эканоміць.

## САКРЭТ ТЫДНЯ

Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Беларусі Віктар Шэйман знаходзіцца зараз на Кубе. На пытанне: "Што ён там робіць?" у адміністрацыі прэзідэнта адказалі: "Вернецца — сам раскажа".

## СТРАЙК ТЫДНЯ

7 жніўня вадзіцелі Гомельскага прадпрыемства гарэлектратранспарту не вывелі свае машыны на лінію. Страйкавалі пяць гадзін. Прычына звычайная: затрымка заробку. А ў Мінску таксама не выходзіць штодзень на лінію 30-50 адзінак гарадскога транспарту. Без усялякага страйку. Проста няма запчастак і грошай, каб заплаціць за рамонт.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Барыс Ельцын": "Славянскі саюз" — справа мінулая" — пад такім загалоўкам "Комсомольская правда" (10 жніўня) перадрукавала інтэрв'ю прэзідэнта РФ японскай газеце "Ніхон Кэйдзай". У ім, у прыватнасці, сп. Ельцын адзначыў: "Панславянскія ідэі, альбо як вы гаворыце, ідэі "славянскага саюза", засталіся ў мінулым. Ды і тады ў знешняй палітыцы Расіі яны ніколі не займалі найгалоўных пазіцый".

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

У Навагрудку прайшлі ўрачыстасці, прымеркаваныя да 600-годдзя Фарнага касцёла. Храм быў закладзены Вялікім князем ВКЛ Аляксандрам Вітаўтам. Тут Якаў (Уладзіслаў) Ягайла браў шлюб з Соф'яй Гальшанскаю. Тут хрысцілі Адама Міцкевіча.

## КАРЭКЦІРОЎКА ТЫДНЯ

У Швецыі праходзіць чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы. Бярэ ў ім удзел зборная каманда нашай краіны. На працягу першых трох дзён з'яўленне на тэлеэкране інфармацыі пра беларускага спартсмена на п'едэстале гонару (краіна, прозвішча, вынік) суправаджалася з'яўленнем бел-чырвона-белага сцяжка. На чацвёрты дзень сцяжок стаў "пасляэрэферэндумны". Колькі каштавала гэта замена нашай краіне, асабліва каб брацы да ўвагі, што рабілася гэта не загадзя, а ў час чэмпіянату?

## АХВЯРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Токар Гомельскага радыёзавода Валянціна Смятрыцкая прыкавала сябе да станка жалезным ланцугом і заставалася ў такім стане ля свайго рабочага месца двое сутак у знак пратэсту супраць затрымкі з выплатай заробку. Дзякуючы ахвярнасці спадарыні Смятрыцкай адміністрацыя завода была вымушана даць пісьмовыя гарантыі на атрыманне ўсімі рабочымі прадпрыемства ў жніўні чэрвеньскай зарплаты.

## УГОДКІ ТЫДНЯ

50 год назад амерыканская авіяцыя ядзернымі бомбавымі ўдарамі знішчыла японскія гарады Хірасіма і Нагасакі. Шэраг амерыканскіх гісторыкаў і палітыкаў сцвярджаюць, што гэтая дэманстрацыя сілы выратавала жыццё сотням тысяч амерыканскіх салдат.

Праз сорак адзін год пасля Хірасімы і Нагасакі савецкая авіяцыя асаджала на Беларусь чарнобыльскія хмары, каб яны не дайшлі да Масквы.

Усе імперыі аднолькавыя...



Адгалоскі

# ЯКОЕ СЁННЯ НА ДВАРЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ, СПАДАРЫ?

Тое, што прэзідэнт нашай краіны узяў на сябе клопат прадыктаваць па радыё і тэлебачанні тэмы ўступных экзаменаў у ВНУ рэспублікі па рускай і беларускай літаратурах і мовах, падкрэсліўшы, што прапанаваныя тэмы да гэтага моманту былі вядомыя толькі яму, — факт, хоць і беспрэцэдэнтны (ніяк не магу ўявіць у гэтай ролі тых жа Клінтана, Шырака ці нават Ельцына), але гатоў дапусціць, што прадыктаваны нейкім вышэйшым дзяржаўным інтарэсам. Магчыма, ва ўсім гэтым, як гаварыў незабыўны Васісуалій Лаханкін, ёсць "вялікая сярмяжная праўда". Як і ў тым, што нашай вышэйшай школе — ад рэктара да апошніх выкладчыкаў — прэзідэнтам быў фактычна вынесены вотум недаверу. І, відаць, не без падставы. Ва ўсякім разе, нечуваную абразу гэтую рэктары-дэканы праглынулі як належнае. Я не чуў, каб нехта з іх, абураны такой знявагай, падаў у адстаўку. Ну, ды Бог з імі...

Прымусілі ж мяне ўзяцца за пяро тэмы прапанаваных сачыненняў. Прынамсі, па рускай літаратуры для апошняга, трэцяга тура абітурыентаў, абвешчаныя таксама па радыё ўжо не прэзідэнтам, а начальнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі У. Замяталіным. Вось яны, гэтыя тэмы: "Актуальнасць рамана М. Астроўскага "Як гартавалася сталь", "Вобраз Давыдава з рамана М. Шолахава "Узнятая цаліна" і "Дружба народаў нам сілу дала".

Нічога благога не магу сказаць пра апошнюю з названых тэм. І вожыку зразумела, што дружбу народаў трэба мацаваць. Праўда, у савецкія часы яе так мацавалі, што і зараз рассёрбаць не можам. Што ж датычыць дзвюх першых тэм, дык тут, як кажуць, прыехалі...

Не ведаю, што маглі напісаць маладыя людзі, абраўшыя для сачынення раман Мікалая Астроўскага "Як гартавалася сталь", якую ўбачылі сёння актуальнасць у кнізе, афіцыйна вызначанай у савецкія часы, як "выдающееся произведение литературы сталинской эпохи" з усімі зыходзячымі адсюль наступствамі: мільённымі тыражамі, уключэннем у школьныя і вузаўскія праграмы, як твора, што "выхоўвае ў савецкай моладзі пачуцці беззапаветнай адданасці партыі бальшавікоў на чале з яе геніяльным правадыром" і г. д. і да т. п.

Не лішне будзе нагадаць, што з'яўленне гэтага рамана прыпала акурат на трыццатыя гады, калі Сталін і яго хеўра распачалі крывавы тэрор супраць уласнага народа.

На думку распрацоўшчыкаў нагаданых экзаменацыйных тэм па рускай літаратуры, надзвычай актуальным, відаць, з'яўляецца сёння і вобраз старшыні калгаса "Гремячий лог" Давыдава з шолахаўскай "Узнятай цаліны", кнігі якая апела, ухваліла адну з самых чорных старонак нашай гісторыі — прымусовую калектывізацыю ў вёсцы, у выніку якой з улацівай бальшавікам бязлітаснасцю была, фактычна, фізічна вынішчана лепшая, самая працавітая частка сялянства. Што датычыць вобраза самога старшыні, камуніста, дваццаціпяцітысячніка Сямёна Давыдава, дык, выпісаны рукой масцітага пісьменніка, ён хоць і прыцягвае да сябе нейкімі прывабнымі чалавечымі рысамі, але з песні слова не выкінеш, — каму сёння незразумела, што ідзі, за якія змагаўся той Давыдаў, развенчаны ўсім ходам гісторыі?

Вось і напрошваецца з усёй гэтай "літаратурнай" гісторыі пытанне — чаго дамагаліся тыя, хто паспрабаў унесці гэтую сумятню і блытаніну ў галовы маладых людзей, хто выраšыў культывізаваць у іх свядомасці хімеры, даўно і беззваротна выкінутыя на сметнік гісторыі? Якое ўсё-такі сёння на дварэ тысячагоддзе, "товарищи, облеченные властью"?

І яшчэ адно пытанне — так бы мовіць, тэхналагічнага кшталту. Хто распрацоўваў сёлета ўступныя экзамены па літаратуры для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы? У Міністэрстве адукацыі і навукі адна з адказных супрацоўніц, якая прасіла не называць яе прозвішча, распавяла мне, што, паводле існуючых цыркуляраў, міністэрства прапанавала ВНУ рэспублікі распрацаваць і даслаць да іх тэмы па ўсіх прадметах уступных экзаменаў, што і было зроблена. Усё гэта супала з распараджэннем прэзідэнта пакеты з распрацаванымі тэмамі ў міністэрстве не ўскрываць, а накіраваць іх у адміністрацыю кіраўніка краіны. "Што было далей, мы не ведаем, — сказала мая суразмоўніца. Прагучаўшыя па радыё і тэлебачанні тэмы для ўступных экзаменаў па рускай і беларускай літаратурах і мовах былі для нас такімі ж нечаканымі, як і для абітурыентаў".

Ці былі тэмы літаратурных сачыненняў, афіцыйна зацверджаных першай асобай у дзяржаве, сярод распрацаваных спецыялістамі вышэйшых навучальных устаноў, сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё яны нарадзіліся на самым "версе". На карысць такой версіі сведчыць хоць бы тое, што самі ВНУ не маглі рэкамендаваць для ўступных экзаменаў па рускай літаратуры той жа раман М. Астроўскага "Як гартавалася сталь", які даўным даўно выкраслены са школьных праграм. Дарадчыкі ж прэзідэнта, відаць, пра гэта не ведалі. Ну, а абудзіць цікавасць абітурыентаў да літаратуры іншага кшталту, літаратуры, адметнай сваёй крытыкай, сваім адмаўленнем таталітарнай сістэмы, сваёй дэмакратычнай накіраванасцю (Твардоўскі, Астаф'еў, Акуджава, Салжаніцын і інш.) — гэтага ім у галаву не магло прыйсці. Не на такой літаратуры яны выхаваны, не такіх ідэалаў трымаюцца.

**М. ЗАМСКІ**

Меркаванне

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ЦІ "АДЗІНСТВА"?

Удзельнікамі нядаўняй тэлесустрэчы пад назвай "Вера, Надзея, Любоў" былі кінарэжысёр Міхаіл Пташук і кінаакцёр Уладзімір Гасцюхін, якія паспрабавалі асэнсаваць з пазіцый гэтых абстракцый Дзяржаву, Незалежнасць, Слова, Сімвалы... Не кранаючы філасофскія нетры гэтых паняццяў, кожны з творцаў па-свойму разумеў іх сутнасць у дачыненні да сённяшняга дня і будучыні Беларусі.

Што тычыцца пазіцыі М. Пташука, то яна яшчэ раз пацвярджае ісціну аб тым, што творчая інтэлігенцыя, якая знаходзіцца на грунце беларускай дзяржаўнасці, можа стварыць адметныя варыянты адраджэння нашай Радзімы. Можна, мусіць, аспрэчваць асобныя думкі нашага кінарэжысёра па формах выхавання нацыянальнага характару ў існуючай сёння атмасферы прававога нігілізму і фактычнага бяспраўя Асобы. Можна і не пагаджацца з абвінавачваннем аднаго з сучасных адраджэнцаў за яго нібыта вельмі зацяты антыкамунізм, які, як лічыць М. Пташук, абразіў шмат якія сем'і. Адзінае, што можна цалкам прыняць, дык гэта пункт гледжання рэжысёра, каторы выключае любыя варыянты глабальных "месіянскіх" праектаў, якія ідуць з Усходу ці з Захаду і маюць на мэце ўзмацненне суседскіх дзяржаў коштам паглынання ці ўрэзвання суверэннасці Беларусі.

Другі ўдзельнік тэлесустрэчы У. Гасцюхін на самым прыпачатку свайго маналога чамусьці папярэдзіў, што ён з'яўляецца толькі акцёрам, а не палітыкам. Падумалася, а навошта ён гэта робіць? Няўжо толькі для таго, каб адвесці памяць гледача ад сваёй вядомасці ў ролі галавой павітухі, якая завязвала пупы падчас нараджэння палітыка-заказным кіношным "дзецям хлусні" і "нянавісці". Праўда, у адрозненне ад "кінадакументальнага бацькі" гэтых мёртванароджаных, які з норавам мітуслівага "мальчика" імкнецца даказаць, што афіцэрская апляўха, дадзеная яму, не з'яўляецца рэцэнзійнай, У. Гасцюхін на тэлекране рэпрэзентаваў пладавітага "ліцадзея", у дачыненні да якога непрымальныя меркаванні школы, а толькі карысці.

Усе ацэнкі даваліся ім па прынцыпе "не жыву я тут", а "усё здараецца са мной тут". Гэта і адсутнасць у яго "больших" роляў (невядома, ці толькі ў кіно), і штодзённыя турботы, і... Адчувалася, што жыццядзейная рытміка Беларусі разглядаецца ім у шчыльнай прывязцы да Расіі. "Інтэлігентна" пасміхнуўшыся з незалежнасці Беларусі, ён адразу ж робіць перасцярогу, што яна (незалежнасць) можа быць гарантавана толькі вайсковымі, эканамічнымі, палітычнымі сувязямі з усходняй суседкай.

Думалася, што кінаакцёр, які павінен нейтральна ставіцца да палітыкі, прапануе нешта футурыстычнае, без пагрозлівага "воздаяния", без анафемы мяжам і мытням, якую ўладарныя і "аматарскія" палітыкі тыражуюць для масавага спажывання. Але тэлегледач так і не дачакаўся адметна-акцёрскага варыянту. Замест яго творца ўвагнаў сваю вытанчанасць у схему імперскага прамывання мазгоў: адзінства (трэба думаць — адзінадзяржаўнасць) павінна быць ужо толькі таму, што "я не жадаю губляць сваіх сяброў на Украине, Грузіі...". Успрымаючы такога роду сентэнцыі думалася: няўжо гэтага дастаткова, каб хваравіта-вялікадзяржаўная надзея на будучыню стала рэальнасцю.

Тэхніка сцэнічнага калажу дазваляе У. Гасцюхіну маскіраваць стандартны накід узнаўлення "отечества" не як гібельную авантуру і катастрофу, у форме гэтак званага "агульнаславянства", а як нібыта толькі ліквідацыю гістарычных скажэнняў. Не абцяжарваючы сябе нават пералічэннем усіх славянскіх народаў, прамоўца зводзіць іх "агульнасць" толькі да амаль фізіялагічнай сувязі, якая быццам бы існуе паміж Беларуссю і маскоўскімі царствамі, імперыямі, "родинами".

І тут робіцца зразумелым, што палітычная адаптацыя міфа аб славянскай "згодзе" патрэбна кінаакцёру не толькі для таго, каб апраўдаць Расію, але галоўнае — перарабіць на маскоўскі капыл беларуса, прышчапіўшы яму псіхалогію бяспраўнай істоты, якая павінна стаць першацаглінкаю, з якой пачнецца ўзнаўленне старой імперыі.

Дыялог у эфіры засведчыў, што творчае і палітычнае разыходжанне яго ўдзельнікаў у выключнай ступені вызначаецца адносінамі іх да Беларусі. Калі для Міхаіла Пташука яна з'яўляецца не толькі месцам нараджэння, крыніцаю фізічнага і духоўнага ўзгадавання, але і зарукаю яго будучыні, то для Уладзіміра Гасцюхіна тыя трохі больш за дзесятак гадоў калі ён, ужо ў сталым узросце, прыехаў з Расіі на працу ў Мінскі тэатр кінаакцёра, беларуская зямля гэта не больш чым дзялянка, на якую "всё еще вернётся".

Мусіць, нельга бяздумна адмахвацца ад спрэчкасці поглядаў удзельнікаў тэлесустрэчы, іх розных жыццёвых перспектыў, якія з'яўляюцца лакальнай праекцыяй больш універсальнай спрэчкі ў нашым грамадстве паміж дзяржаўна-беларускай будучыняй і імперска-каназаваным гэтак званым славянскім адзінствам, а на справе вялікарускім герметызмам.

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

Візіты

# “ВЫ НЕ ЎЯЎЛЯЕЦЕ, ЯКІМ БАГАЦЦЕМ ВАЛОДАЕЦЕ”

Палітычная сістэма Ізраіля мае ў аснове класічны брытанскі парламентарызм. Найбольшую палітычную вагу маюць дзве партыі — Рабочая (па аналогіі з брытанскімі лейбарыстамі) і Лікуд (кансерватары). Зараз кіруючая партыя — Рабочая, адпаведна Лікуд у апазіцыі. Але на маючых адбыцца ў наступным годзе выбарах прагназуюць, згодна апытанняў грамадскай думкі, перамогу Лікуда. Электарат Лікуда — рэпатрыянты з былога СССР, сённяшняй Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Гэта людзі, якія адчуваюць культурную сувязь з зямлёю, якую ў свой час пакінулі, і неабыякавыя да падзей, што там адбываюцца.

Калі Лікуд пераможа на выбарах, адбудуцца пэўныя (не радыкальныя) змены ў знешняй палітыцы краіны. Лідэры Лікуда мяркуюць, што сённяшняе кіраўніцтва краіны не надае патрэбнай увагі стасункам Ізраіля з СНД, і гэтую памылку трэба выправіць. Садружнасць — гэта вельмі перспектыўны рынак, хоць сёння ўкладваць капіталы ў эканоміку СНД даволі рызыкоўна.

Днямі Мінск наведаў генеральны менеджэр партыі Лікуд Авігдор Ліберман (ён, дарэчы, рэпатрыянт з СССР, з’ехаў у Ізраіль 17 год назад). Ягоны візіт мае мэтай вывучэнне на месцы эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў СНД (перад Мінскам сп. Ліберман наведаў сталіцу Расіі Маскву), з тым, каб пасля прыходу Лікуда да ўлады праводзіць знешнюю палітыку на падставе аб’ектыўнай інфармацыі.

На думку сп. Лібермана, ёсць рысы падабенства паміж Ізраілем і Беларуссю. Абедзве краіны не могуць пахваліцца наяўнасцю вялікіх радовішчаў карысных выкапняў, неабходных для прамысловасці, але маюць вельмі выгаднае геапалітычнае становішча. Ізраіль робіць стаўку на высокія тэхналогіі, навукаёмістую вытворчасць, на свабодны рынак. Не мае іншага шляху і Беларусь...

“Калі мы ляцелі на самалёце над Беларуссю, мы бачылі зялёную зямлю і шматлікія рэкі — у нас у Ізраілі толькі спякотнае сонца і гарачыя камяні. Вы не ўяўляеце, якім багаццем валодаеце, ваш край можа быць раем зямным”, — сказаў у часе гутаркі са мною сп. Ліберман. Мо і сапраўды, здалёк лепей бачна. У час візіту генеральны менеджэр Лікуда меў сустрэчы з палітычнымі дзеячамі. Можна спадзявацца, што візіт паспрыяе большаму збліжэнню дзвюх краін.

**В. БОГУШ**

# У ГОНАР КАЗАХСКАГА КЛАСІКА

10 жніўня споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння выдатнага казахскага паэта, класіка казахскай літаратуры Абая Кунанбаева. Напрыканцы тыдня ў Казахстане пройдуць урачыстасці, прысвечаныя яго памяці, якія праводзяцца пад эгідай ЮНЕСКА. Для ўдзелу ў святочных мерапрыемствах у гонар Абая ў Алма-Ату вылецела беларуская дэлегацыя, якую ўзначальвае намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда.

Пошта

# “СВАЯ” ГІСТОРЫЯ НА ЧУЖЫ ЛАД

Увесну паглядзеў тэлеперадачу “Вывучаем сваю гісторыю: Кірыла Тураўскі”, і стала неяк не па сабе. Узнікла пытанне,: “Божухна-бацюхна, дакуль жа мы будзем таптацца на месцы і спяваць чужыя песні?” Вось ізноў атрымалася “свая гісторыя” на чужы лад. Няўжо ж нават такія славутасці, як Кірыла Тураўскі, не маюць свайго, менавіта нашага беларускага аблічча?! Ды і выраз “Другий Златоуст, иже нам в Руси паче всех восиа” (“Другі Златавуст, што ярчэй за ўсіх праззяў на Русі”) патрабуе ўдакладнення. Што за Русь тут маецца на ўвазе: Кіўеская?.. Уладзіміра-Суздальская?.. Белая (“Белокаменная”, г. зн. праваслаўная)? А мо гэта пра нашу Старажытную Беларусь у сённяшнім яе разуменні тады ўжо так гаварылася?

Пытанне за пытаннем... І яшчэ: ці ж дастаткова сёння таго, што паказалі-пераказалі ў старым 20-хвілінным фільме? Вядома, не, Няўжо было цяжка дапоўніць фільм рэпартажам, што быў зроблены пры адкрыцці помніка “другому Златавусту” ў памінулым годзе? Або за колькі хвілін расказаць-растлумачыць пасля дэманстрацыі фільма тое, што ўжо зараз цвёрда вядома з розных крыніц? Пагарталі б хаця б матэрыялы навуковай канферэнцыі “Наследие Кирилла Туровского и современная общественно-культурная жизнь” (Гомель, 1994).

У чым жа веліч ды неўміручасць Кірылы Тураўскага? Фільм даво-дзіць, што наш старажытны зямляк “не ўзлюбіў багацця і марнае славы гэтага свету, а найболей любіў вучэнне боскіх кніг”, “увайшоў шчасны ў слуп і жыў нейкі час пустэльнікам, яшчэ болей працуючы ў посце й малітвах”, стаў “Кірыла епіскапам горада Турава, што паблізу Кіева”; “ерась Фядоркі-ерэтыка... выкрыў шчасны Кірыл праз пісанні Боскія”, “Андрэю Багалюбскаму напісаў мноства пасланняў паводле евангельскіх і прарочых кніг, якія чытаюць на Госпадавыя святы, а таксама шмат слоў, карысных душы, а яшчэ больш — малітваў да Госпада склаў і ўсхваленняў святым, якія царкве перадаў”, “у 1182 годзе пакінуў епіскапства і да самай смерці займаўся пісьменніцтвам”, “стаяў на адным узроўні з аўтарам “Слова пра паход Ігаравы” і заклікаў да еднасці”... Нават самаму дапытліваму чалавеку гэта інфармацыя мала што дасць, асабліва калі гэта яшчэ школьнік.

Думаецца, сучаснага чытача не вельмі задавальняюць і звесткі пра Кірылу Тураўскага ў разнастайных беларускамоўных энцыклапедыях (гл., напрыклад, “Беларуская Савецкая Энцыклапедыя”. Т. 5; “Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі”. Т. 3; “Беларуская мова”. Мн., 1994; і інш.). Нават гады нараджэння і смерці слыннага асветніка выклікаюць недаўменне: калі напісана, што ён нарадзіўся “каля 1130” ці “не пазней 1130”, то гэта можна вытумачыць прызначэннем Кірылы епіскапам Турава, напэўна, у 1169 г. пасля смерці епіскапа Георгія, на 40-ым годзе жыцця Кірылы, але пісаць, што Кірыла Тураўскі памёр “каля 1182” ці “не пазней 1182” — гэта ўжо анахранізм. Вучоныя даказалі, што Кірылава “Послание к богоблаженному архимандриту Василию о схиме” і ягоная малітва “У суботу нанач” напісаны пасля 1188 г., г. зн. пасля смерці Іллі Мурамца, на якую адгукнуўся Кірыла Тураўскі. (Гл. матэрыялы памянёнай гомельскай канферэнцыі. А больш пераканальнай, на наш погляд, будзе спасылка на выказванне аўтара 25 кніг і брашур ды больш за 200 разнастайных публікацый Ю. Лабынцава, які ў кнізе “Старая казка Палесся” негаласлоўна зазначыў: “Можна дапусціць, што Кірыла з’явіўся на свет не пазней першай трэці XIIст., а памёр каля 1190 г.” Таксама рознымі вучонымі, пачынаючы ад І. Яроміна і канчаючы І. Сацутам, падлічана, што Кірыла Тураўскі пасля сябе пакінуў каля 50 разнастайных паводле жанру твораў: слоў, казанняў, слоў-казанняў, аповесцяў, прытчаў, аповесцяў-прытчаў, малітваў і інш. На вялікі жаль, усе творы нашага земляка рассыпаны па розных выданнях і да гэтага часу не сабраны ў адзін звод-збор.

Вялікі і неўміручы Кірыла Тураўскі не толькі тым, што ў гады жорсткіх феадальных міжусобіц змагаўся вусным і пісьмовым словам за хрысціянскае адзінабожжа ды адзінаўладдзе, але і тым, што, карыстаючыся разнайстайнымі моўна-выяўленчымі сродкамі, прапагандаваў адзінства нябеснага і зямнога, прыроды і чалавека, душы і цела, жыцця і культуры, рацыянальнага і эмацыянальнага, тэарэтычнага і практычнага. Наш знакаміты зямляк заклікаў усіх людзей пастаянна ўдасканальвацца, развіваць свой розум, які здольны, імкнучыся да бясконцасці, г. зн. да Бога, выратаваць чалавека ад няведання і грэху. Кірыла Тураўскі раіў сістэматычна і паслядоўна здабываць навуковыя веды праз чытанне кніг, праз глыбокае засваенне прачытанага, валодаць культурай чытання. Шматлікія прароцтвы і прадбачанні, запаветы і наказы старажытнага прапаведніка, гучаць вельмі надзённа, асабліва пры нашым крызісным становішчы. Яскравым прыкладам могуць паслужыць наступныя словы Кірылы Тураўскага: “Гора будзе ўсім тым, хто не трымаўся кніжнай мудрасці і наказаў духоўных бацькоў: гора тым, хто пад гульні і скокі апіваўся вінам; гора будзе жалейнікам і гора тым, хто іх слухаў, або што ўзвялічвае д’ябла — губіць усіх хрысціян” (пераклад на сучасную беларускую літаратурную мову А. Мельнікава). Вялікі асветнік і гуманіст, святар і паэт, абараняў нямоглых, бедных ды гаротных, стараўся ўсялякім чынам дапамагчы кожнаму чалавеку, хто меў патрэбу ў гэтым, але заўсёды падкрэсліваў адказнасць кожнага чалавека за свае ўчынкі.

Вельмі добра, што Таварыства, якое носіць імя Кірылы Тураўскага, дамаглося ўвекавечыць гэтае славутае імя ў помніку нашаму старажытнаму земляку. Надзвычай добра, што таварыства “выступіла з заклікам садзейнічаць славянскаму эканамічнаму саюзу”, садзейнічала прыняццю прапановы “аб мэтазгоднасці і актуальнасці правядзення Міжнароднага свята — дзён славянскай пісьменнасці і культуры ў маі 1995 года на базе Браншчыны, Гомельшчыны і Чарнігаўшчыны” і “на сумежжы абласцей узвесці храм-музей Кірылы Тураўскага”. Няблага лічыць нашага слыннага земляка і “сімвалам еднасці ўсходнеславянскіх народаў і іх культур”. Але, прыкрываючыся высокім і легендарным імем знакамітага земляка, аднасчасова замахвацца на суверэнітэт сучаснай Рэспублікі Беларусь і лічыць сённяшнюю беларусізацыю “дзіцячымі патугамі”, — гэта ўжо занадта (гл. згаданыя матэрыялы навуковай канферэнцыі, с. 21).

Нам здаецца, што патрэбна ў значнай ступені павялічыць увагу да асобы Кірылы Тураўскага не толькі ў вышэйшых навучальных установах, але і ў сярэдняй школе. Неабходна як мага хутчэй зрабіць пераклад усіх твораў старажытнага беларускага філосафа і прапаведніка, настаўніка і пісьменніка на сучасную беларускую літаратурную мову і выдаць іх масавым тыражом, каб кожны большменш пісьменны чалавек мог самастойна разабрацца, хто ён быў, наш зямляк з XII стагоддзя, і што ён зычыў нам, чаго даамагаўся праз вякі ад усіх нас. Прыемна было б пачытаць і даследаванні, у якіх былі б дэталёва паказаны ўплывы на творчасць Кірылы самога Турава і яго ваколіц, флоры і фауны старажытнай Тураўшчыны, старажытнай беларускай мовы і беларускага фальклору. Хацелася б пажадаць Аляксею Мельнікаву хоць бы такіх поспехаў у прапагандзе Кірылы Тураўскага, якіх дасягнуў У. Арлоў у прапагандзе Ефрасінні Полацкай.

**Мікола АБАБУРКА**

*г. Магілёў*

РЫГОР БАРАДУЛІН

# ДУРНОТЫ

## ПРЫ ЛЮБЫМ

**Сарока навіны нясе на хвасце.**
**Кумпяк**
**Раскашуецца ў тлустым дыме.**
**Расце маладзік,**
**І туман расце,**
**І вішні цвітуць**
**Пры любым рэжыме.**

## ВІДАЦЬ, АДНО

**Паказвалі ўжо апраметнай дно,**
**Ды ўсё адно**
**Лянота сляпая**
**Неадступна ступае за намі.**
**Нам, беларусам,**
**Відаць, адно**
**Ад Бога выспятка не хапае,**
**Каб сталі сябе пачуваць панамі.**

## ПАРАДА

**Хоць на нервы слаб інтэлігент,**
**Трэба,**
**Каб не стацца імпатэнтам,**
**Марна лоб не разбіваць ушчэнт,**
**І не мітусіцца пад кліентам!**

## ПА-СВОЙМУ

**Па-свойму кожны ўчынкі**
**Чыніў.**
**У Ноўгарадзе крыжакам у дагоду**
**Вароты**
**Івашка Шваль адчыніў,**
**Імя сваё даўшы**
**бязроднаму зброду.**
**Раней аніяк іх не называлі,**
**І сталі ўраз**
**Імяннoю шваллю.**

## НЕ МОЖА

**Не можа звацца элітаю**
**Ні нават проста народам**
**Збаўтаная маса,**
**Якая блытае**
**Каналізацыю з**
**Вадаправодам!**

## ЗАСТАЕЦЦА

**Барацьбу,**
**Як некалі за мір,**
**За сябе вядзе самакумір,**
**Улюбёнак шырачэнных мас,**
**Бацькам быць у маладых**
**Ахвочы.**
**Застаецца выдаць самаўказ**
**Для сябе**
**На права першай ночы.**

## НАКОНТ ПАВЫШАНАЙ АХОВЫ

**Калі стараюцца ў прыбіральні**
**Ці, як Караткевіч казаў,**
**У срачы**
**Утрываліць ахоўна й сцены**
**й дно,**
**Не значыць, што нехта**
**Хоча ўкрасці г...но,**
**Проста баяцца,**
**Каб толькі яно**
**Не магло далей пацячы.**

## НЕ СТАНЕ!

**Хоць аб’яву вешай на вушах:**
**Ён мудрэц,**
**Затулены законам,**
**Хоць друкуй партрэты на грашах,**
**Ахламон**
**Не стане Саламонам!**

## ЗА ХАРЧЫ

**Ён звышнармальны,**
**Ён не псіх,**
**З дазволу органаў вядомых**
**На прэзентацыях усіх,**
**На ўсіх выставах і прыёмах**
**Мастак не столькі п’е,**
**Як нюхае**
**І глуха, пранавуха слухае.**
**Як ні маўчы,**
**Хоць закрычы,**
**А трэба ж адрабляць харчы.**

## СВЯЦІЛА

**У сваёй нахабнасці нявінны,**
**Як нашчадак дарвінскі**
**З галіны,**
**Са слупа**
**Электрык сельскі злез.**
**І ўявіў,**
**Што будзе ён свяцілам.**
**Ды ўхапіць нялёгка**
**Кашу шылам.**

**Чым дуплейшы,**
**Тым цямнейшы лес.**

## НЕ ШАПЧЫСЯ!

**З босай антыгалавой**
**Не шапчыся з крапівой,**
**Бо загар на ўсю шчаку**
**Атрымаеш неўзнаку.**

## НАБЛІЖЭННЕ ДА ПРАГРЭСУ

**За лідэрамі бэкалі ды мэкалі.**
**Нас калатун праймаў,**
**Хапаў хапун.**
**Чэкіст, энкавэдзіст казалі**
**Некалі.**
**Гучыць нам сёння кілер,**
**Як кілун.**

## ХУДЫ

**Дзядзька пеўня прадае.**
**Цётка,**
**Быццам мужу,**
**Ганьбу певуну дае:**
**— Ён худы задужа.**
**Дзядзька цягне з барады**
**Кпінаў аскялёпкі:**
**— Ты глядзіш, а не туды.**
**Хоць худы,**
**Ды**
**Ё...кі!**

## ПАЛЁГКА

**На словах верачы ўласнаму міфу,**
**За светлую будучыню змагары,**
**Камуністы аблегчылі**
**працу Сізіфу —**
**Міфічны камень**
**Каціць з гары.**

## ПАКАЗАЎ

**Запрасіла камуніста,**
**Разаслала цёплы плед.**
**Прытуліў ён і ўрачыста**
**Паказаў мне**
**Партбілет.**

## ЗРАЗУМЕЛА

**Яно, зразумела,**
**Не надта ахвоча**
**З нас кожны з іншым**
**Сябе параўноўвае.**
**І ў барана чалавечыя вочы,**
**Адно галава барановая.**

## ПРА САМАГУБСТВА

**Гэта самагубства, сапраўды,**
**Як сябе знаходзяць самі губы.**
**І любая —**
**Любая тады,**
**І любы нялюбы —**
**Толькі любы.**

## АБ МОВАХ

**Нядзіўна,**
**Што Банапарт выпадковы**
**Не можа наздзеквацца**
**З матчынай мовы.**
**Уцяміць даўно ўжо**
**Няцямкім пара:**
**Сабака брэша на мове гаспадара.**

## УСПОМНІЦЬ

**Саюз не-архангела Міхаіла**
**Аж двойчы Іванаў**
**Змікіціць круціла.**
**Ваўкі-цыкуны траваежнымі**
**Сталі,**
**Па-воўчы “Авечаствам”**
**Зборню назвалі.**
**Дык слаўся “Авечаства”,**
**Значыць, ура!**
**Абы не прагнала Масква**
**Са двара.**

## ПАРКЕТ І ЭТЫКЕТ

**Не думае аб этыкеце**
**Бугай калгасны на паркеце.**
**Не галава,**
**А рык і рогі**
**Яго вядуць да перамогі.**

## НЕ З’ЯДУЦЬ!

**Абгарадзіўся край,**
**Хоць стаўся голым,**
**З міліцыянтаў шчыльным**
**частаколам.**
**Жартуе люд,**
**На гэту гледзячы рэдуць:**
**Не выдасць Бог,**
**Адміністранцы не з’ядуць!**

# Максім ТАНК



Беларуская літаратура і культура панеслі цяжкую страту — 7 жніўня 1995 года на восемдзесят трэцім годзе жыцця памёр выдатны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, дзяржаўных і літаратурных прэмій СССР і Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, ганаровы грамадзянін горада Мінска, акадэмік Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко). Беларусь страціла мудрага і слаўнага свайго сына, мужнага і нястомнага змагара за лепшую долю народа, сусветна слыннага паэта, сумленнага патрыёта-грамадзяніна, выключна шчырага і добрага чалавека.

Нарадзіўся Максім Танк 17 верасня 1912 года ў вёсцы Пількаўшчына, што на Мядзельшчыне, у сялянскай сям'і. Ужо ў школьныя гады актыўна ўключыўся ў вызваленчы рух у Заходняй Беларусі. Пазней вёў рэвалюцыйную дзейнасць на Віленшчыне і Навагрудчыне, за што больш года быў зняволеным віленскай турмы "Лукішкі". Працаваў у легальным і падпольным прагрэсіўным друку. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі — супрацоўнік абласной газеты "Вілейская праўда". У час Вялікай Айчыннай вайны працаваў у газеце "За Савецкую Беларусь" (Бранскі фронт), у агітплакаце "Раздавім фашысцкую гадзіну". З 1945 па 1948 год — літаратурны рэдактар часопіса "Вожык", у 1948—1966 гадах — галоўны рэдактар часопіса "Полымя". З 1966 па 1990 год узначальваў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Быў дэпутатам Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі VI-VII скліканняў, членам Савецкага камітэта абароны міру, шматлікіх грамадскіх арганізацый.

Друкавацца пачаў у 1932 годзе ў газетах і часопісах Заходняй Беларусі. Першыя кніжкі паэзіі "На этапах" (1936), "Журавінавы цвет" (1937), "Пад мачтай" (1938), паэма "Нарач" (1937), выдадзеныя ў Вільні, засведчылі не толькі вялікі паэтычны талент Максіма Танка, але і яго мужную грамадзянскую пазіцыю. У суровыя ваенныя гады яшчэ больш узмужнеў паэтычны талент Максіма Танка. Ён услаўляў подзвігі воінаў і партызан, асуджаў злачынствы фашысцкіх захопнікаў, марыў пра мір і вызваленне. Толькі ў 1945 годзе выйшлі яго паэма "Унук Сяліба", кнігі "Вастрыце збою", "Праз вогненны небасхіл". У 1948 годзе за зборнік "Каб ведалі" Максім Танк стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Вынік напружанай творчай працы ў пасляваенныя гады — больш чатырох дзесяткаў кніг, пазначаных высокім паэтычным майстэрствам, адметных глыбокім філасофскім зместам. Найбольшую вядомасць набылі яго кнігі "На камні, жалезе і золаце", "След бліскавіцы", "Мой хлеб надзённы", "Глыток вады", "Ключ жураўліны", "Дарога, закалыханая жытам", "Прайсці праз вернасць". Шмат разоў выходзілі зборы твораў Максіма Танка. Створанае паэтам паставіла яго ў адзін рад з лепшымі творцамі свету, стала здабыткам не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры. Шмат зрабіў Максім Танк і як перакладчык. Дзякуючы яму на беларускай мове загучалі асобныя творы А. Пушкіна, У. Маякоўскага, П. Тычыны, М. Рыльскага, А. Венцлавы, Я. Судрабкална, А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Ю. Тувіма, У. Бранеўскага і інш.

Тонкі лірык, нястомны шукальнік праўды і красы, сэнсу жыцця і чалавечага прызвання, Максім Танк да апошніх сваіх дзён не выпускаў з рук пяро. Яго сэрца чутка адгукалася на праблемы часу, яго голас заўсёды моцна гучаў у абарону народа. Арыгінальны талент, багаты грамадскі вопыт вызначылі самабытнасць і навізну яго творчасці, зрабілі яе папулярнай, На паэзіі Максіма Танка выхоўвалася і будзе выхоўвацца не адно пакаленне моладзі. Сам ён быў шчырым настаўнікам і добрым дарадцам маладых талентаў.

Тытанічная праца пісьменніка і шматгранная грамадская дзейнасць былі ўшанаваны званнем Героя Сацыялістычнай Працы (1974), чатырма ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, Дружбы народаў, многімі медалямі, афіцэрскім крыжам "Адраджэнне Польшчы", ордэнам Заслугі ПНР. Народны паэт Беларусі. За зборнік вершаў "Нарачанскія сосны" стаў лаўрэатам Ленінскай прэміі (1978), за кнігу "Мой хлеб надзённы" (1978) — лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Лаўрэат беларускіх і замежных літаратурных прэмій.

З жыцця пайшоў чалавек, якім з поўным правам можа ганарыцца родная зямля. Яго жыццё — прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне. Усе, хто ведаў Яўгена Іванавіча, назаўсёды захаваюць аб ім самую светлую памяць. Ён любіў людзей, а людзі любілі яго і гэтая любоў стане найлепшым помнікам суайчыннікаў свайму народнаму песняру.

**Лукашэнка А. Р., Грыб М. І., Чыгір М. М., Сініцын Л. Г., Бамбіза І. М., Русакевіч У. В., Замяталін У. П.. Бутэвіч А. І.. Стражаў В. І., Сянько У. Л., Ганчарык У. І., Петух П. П., Ярмошын У. В., Бабровіч В. Р., Барадулін Р. І., Брыль І. А., Быкаў В. У., Гілевіч Н. С., Навуменка І. Я., Чыгрынаў І. Г., Шамякін І. П., Адамчык В. У., Андраюк С. А., Аўрамчык М. Я., Васіль Вітка, Высоцкі М. С., Вярцінскі А. І., Ганчарэнка А. М., Гарэцкі Р. Г., Гіль (Гілевіч) М. С., Гніламёдаў У. В., Грахоўскі С. І., Жалязоўскі А. П., Далідовіч Г. В., Дудараў А. А., Захарэвіч М. Г., Законнікаў С. І., Звонак П. Б., Зуёнак В. В., Каваленка В. А., Казько В. А., Кіслік Н. З., Максім Лужанін, Кудравец А. П., Ліпскі У. С., Лойка А. А., Лукша В. А., Лучанок І. М., Лыч Г. М., Макаль П. М., Мальдзіс А. І., Масарэнка А. Г., Новік Г. А., Някляеў У. П., Паўлаў У. А., Пісьмянкоў А. У., Прыходзька П. Ф., Пташнікаў І. М., Русецкі А. С., Сіпакоў І. Д., Супрунчук В. П., Сушчэня Л. М., Тарас Н. М., Тарасёнак І. Ф., Шабалін А. А., Шаранговіч В. П.**

## МАКСІМ УВАСКРЭСНЕ

**Не журацца адны,
Што мруць паэты,
Нібыта ўсе яны —
"Народ адпеты",**

**Другім — бяда, што Танк
Больш ісцін не адкрые,
Што падала свой знак
Ave Maria,**

**Бо ўбачыла, што скрут
Ёй не паправіць,
А творцу ад пакут
Пара пазбавіць.**

**Ёй трэба б ратаваць,
Даўно аслепшых,
Чым Богу аддаваць
Сыноў найлепшых.**

**Паэт аддаў усім
Душу і песні...
Зноў вернецца Максім,
Максім ўваскрэсне.
8 жніўня.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## ПАМЯЦІ МАКСІМА ТАНКА

**Хоць сонечна, а сёння дзень журботы.
Маўчанне. Смутак. Ля труны — вянкі:
Яўген Іванавіч —
пясняр наш бессмяротны
Развітваецца з намі на вякі.**

**А нашы сэрцы паланёны жалем.
Балючых слёз не можам мы стрымаць.
Ад гора ў Нарачы аж пацямнелі хвалі,
Бары, палеткі, стоена маўчаць.**

**Тут развінаў ён маладыя крылы,
Шлях у жыццё тут выбіраў сабе...
Увесь народ наш над тваёй магілай
Схіляецца ў пашане і журбе.**

**Паўлюк ПРАНУЗА**

## ГОРКІ ВЫРАЙ

**Горкія вырaі гэтым летам —
Першыя адлятаюць паэт за паэтам.
У сэрца б'е жнівеньская маланка —
Нарачанскія сосны аплакваюць Танка,
А векавечныя камяні-валуны
Песняру стануць помнікамі яны,
Дзе і самому між сваіх векаваць,
Родную Пількаўшчыну пільнаваць.**

**Васіль ВІТКА**

# ЯМУ НА НАШАЙ ЗЯМЛІ НАЛЕЖЫЦЬ ВЕЧНАСЦЬ

Пасля Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі — Максім Танк... адзін з апошніх паэтаў эпохі, якая ў найбольшай меры была іхняй, — у тым сэнсе, што ім найдаўжэй давялося ў ёй працаваць. Толькі ў такім... Бо што датычыць творчасці — тут агульнае меркі быць не можа: чыя паэзія належала толькі або пераважна свайму часу, а чыя — і ў якой меры, і як далёка — выйдзе за яго гарызонты, на абсягі новых часоў і эпох, — гэта дакладна вызначыць будучыня. Але пра Паэта з якім мы развітваемся сёння і не чакаючы выраку гісторыі можна з пэўнасцю сказаць: яму на нашай зямлі належыць вечнасць. Калі, вядома, яна, гэтая вечнасць, будзе наогул.

У гістарычным жыцці-быцці кожнага народа ёсць імёны, ёсць постаці, па якіх у першую чаргу свет вызначае, чым гэты народ самабытны і цікавы, якое яго ўласнае духоўнае аблічча, за што яго можна і трэба паважаць, цаніць і дружалюбна знацца з ім. Гэта — людзі-маякі, людзі-светачы. Гэта такія волаты духу, такія валадары творчае волі, якія прыходзяць у жыццё не часта. Прыходзяць — каб усім іншым дапамагчы зразумець найвялікшыя жыццёвыя ісціны, зразумець тое, дзеля чаго і варта чалавеку жыць на зямлі. Такога волата духу, волата роднага слова і страціла на пачатку сонечнага жніўня Беларусь.

Максім Танк — паэт несумненна ўсясветнага маштабу і значэння, і менавіта таму, што ён вялікі паэт беларускі, вялікі мастак слова нацыянальны. Кожны беларускі паэт, вядома ж, беларускі — і па мове, і зместам. Але, думаю, што пасля Купалы і Коласа ў найбольшай меры беларускім паэтам ёсць Максім Танк. Не ведаю, у чыіх кнігах нашых сучаснікаў можна знайсці столькі Беларусі і беларускасці, можна так адчуць прыродны і векавечны дух нашай Бацькаўшчыны, як у ягоных. Яго неабсяжны свет паэзіі найпаўней увабраў у сябе ўсе фарбы і колеры роднай зямлі, водар і пах яе кожнай зёлкі-былінкі, звоны-перазвоны яе ручаёў-крыніц і шумы-пошумы яе бароў-лясоў, яе нарачанскіх сосен, гэтаксама як і ўсе адметнасці беларускай сялянскай хаты, беларускага вясковага і не толькі вясковага двара, беларускай нівы. Само сабою — і ўвесь водар, і ўсе фарбы-колеры роднага беларускага слова. А самае галоўнае — і ўсе думы працоўнага Беларуса, усе яго пачуцці і душэўныя клопаты, усе яго перажыванні, радасці і трывогі, драмы і трагедыі. Іншымі словамі — лёс беларускага народа, лёс Бацькаўшчыны. І пры гэтым — сучасны еўрапейскі ўзровень мыслення, высокая інтэлектуальнасць — у спалучэнні з традыцыйнай жыццёвай мудрасцю народных глыбінь, чароўная святлынь няпісанай народнай маралі, людскасці і дабрыні.

Многія, напэўна, лічаць, што Максім Танк прайшоў па жыцці шчаслівўцам. Лічаць — прывыкшы бачыць яго перш за ўсё ў святочных прэзідыумах і на розных урачыстасцях. Гэта — памылковае ўяўленне. Ім пражыта жыццё вельмі нялёгкае і няпростае, зведана безліч пакут і горычы, момантаў крайне небяспечных і драматычных. Можна сказаць так: усё, што выпала ў XX стагоддзі на долю яго народа, — дасталося ў поўнай меры і яму.

Пра жыццё і творчасць Максіма Танка напісана шмат добрых, таленавітых кніг. Але самая добрая, самая праўдзівая і глыбокая кніга аб ім — несумненна, наперадзе. Яна яшчэ будзе напісана. Бо трэба ж ва ўсёй паўнаце і велічы паказаць, — і сваім людзям, і ўсяму свету, — якога слаўнага сына нарадзіла легендарная беларуская зямля, якога вялікага творцу дала яна і сваёй роднай літаратуры і духоўнай культуры ўсяго чалавецтва.

У вялікага працаўніка выпала нарэшце з пальцаў пяро, і ён упершыню склаў на грудзях свае натруджаныя рукі, — такія ж, якія былі ў яго бацькоў, — у яго дзядоў і прадзедаў. Упершыню — і навечна. Больш ужо нічога нам паэт не падорыць. Ён зрабіў усё, што мог. А хацеў, і спадзяваўся, да апошняга дыхання спадзяваўся зрабіць яшчэ больш. За некалькі дзён да таго, як спынілася яго збалелае сэрца, я быў у яго ў бальніцы, у агульнай — цеснай, гарачай і душнай — палаце, і ненарокам заўважыў у прыскрынку тумбачкі знаёмы мне ягоны агульны сшытак з зачэпленай на вокладку самапіскай. Ён яшчэ спадзяваўся... І ў безнадзейным стане ён не мог без працы.

Максім Танк пакінуў не толькі вялікую неацэнную літаратурную спадчыну, але і свае жыццёвыя ўрокі. Урокі мудрасці і дабрыні, прастаты і сціпласці. Урокі вернасці Беларусі, якую бязмежна-горача любіў, вернасці і ўдзячнасці сваім бацькам і дзядам, побач з якімі, на зялёным пагорку, пад высокімі бярозамі і рабінамі, завяшчаў пахаваць яго. Як верны і ўдзячны сын бацькоў і роднага краю — іншага завяшчэння ён зрабіць не мог.

Бывай, дарагі Настаўнік, старэйшы сябра і брат! Бывай, вялікі сейбіт-руплівец на векавечнай беларускай ніве! Бывай! Маці-Беларусь цябе не забудзе ніколі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# "БЫВАЙ І — ДА СУСТРЭЧЫ"

Леташняй восенню мне пашчасціла разам з Максімам Танкам выязджаць на яго творчую сустрэчу з землякамі. Паэт чуўся вельмі кепска, давялося нават доктара з сабою запрасіць, але адмовіць землякам ён не мог. Адчувалася, што гэта была яго апошняя развітальная паездка на родную Мядзельшчыну (так яно, на жаль, і здарылася). І хоць часу было ў абрэз, дарога нялёгкая, а вадзіцелю не надта хацелася з'язджаць на калдобістыя прасёлак, мы з Марыяй Захарэвіч настаялі, каб па дарозе ў Мядзел заехаць і ў Пількаўшчыну. А там ужо сам Яўген Іванавіч пажадаў завітаць на мясцовыя могілкі, да магілаў бацькоў...

Пакідаючы магілу маці, паэт развітальна махнуў рукою і нягучна сказаў: "Бывай і — да хуткай сустрэчы". Потым дадаў: "Я папрасіў, каб і мяне тут, побач з бацькамі, пахавалі". Зразумела, мы як маглі адводзілі Яўгена Іванавіча ад цяжкіх думак пра смерць. Аднак паэт, відавочна, ужо адчуваў няўмольнае прыцягненне зямлі...

І вось пількаўская зямля прыняла ў сваё ўлонне яшчэ аднаго свайго вернага сына. Відаць, толькі з часам мы як след ацэнім веліч постаці Максіма Танка, а разам з тым — і велічыню нашай сённяшняй страты. Класік беларускай і сусветнай паэзіі. Нацыянальны герой Беларусі. Вызначэнні гэтыя — зусім не перабольшанне. Максім Танк — у адным літаратурным шэрагу побач з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам... У тым жа купалаўскім сузор'і.

Паэт пакінуў нам вялікую творчую спадчыну, прасякнутую ідэямі патрыятызму, чалавекалюбства, красы. Наша задача — упарадкаваць гэтую спадчыну, найлепшым чынам данесці да чытача, глыбока і шырока вывучыць. Толькі тады мы ў нейкай ступені сплацім доўг найбольшаму беларускаму паэту другой паловы XX стагоддзя. Хочацца верыць, што неўзабаве мы зможам прайсціся вуліцаю Максіма Танка, ускласці кветкі да яго помніка ў адным са сквераў стольнага Мінска, завітаць у яго літаратурна-мемарыяльны музей...

**Вячаслаў РАГОЙША**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя" смуткуе з выпадку смерці былога галоўнага рэдактара, члена рэдакцыйнай калегіі часопіса, народнага паэта Беларусі Максіма ТАНКА (Я. І. Скурко) і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ГОНАР НАЦЫІ

9 жніўня споўнілася б 85 гадоў з дня нараджэння Ларысы Антонаўны Геніюш... Ды ўжо дванаццаць, як яе няма з намі.

Цудоўнай паэтэсы, сумленнейшага чалавека, адданейшай дачкі Бацькаўшчыны... Знайшла яна свой вечны спачын на роднай Беларусі, непадалёку ад Зэльвы, дзе і пражыла свае апошнія гады. Яе магіла на ўзгорку. Яе і мужа Янкі... Можна сказаць, адна на дваіх. Двое з мільёнаў пакутнікаў беларускага народа. На доўгі час разлучаныя ў жыцці не па сваёй волі, нарэшце тут, на могілках, яны змаглі быць разам.

Звычайна пра такіх людзей, як Ларыса Антонаўна, кажуць, што яны апераджаюць час. Яна і на самай справе яго апераджала, і не проста апераджала, а імкнулася жыць так, як і мусяць жыць тыя, хто лічыць сябе не проста чалавекам, а часцінкай народа, нацыі. І чужое не адмаўляюць, але і сваё ў крыўду не даюць. Ніколі. Нідзе. Ні пры якіх абставінах.

Ёсць у Л. Геніюш радкі, якія можна паставіць своеасаблівым эпіграфам да ўсяго яе пакутнага жыцця:

Пакуль аж смерць мне не закрые вочы,
Зямля не спыніць мой апошні дых,
Буду ісці, буду змагацца моўчкі
За Край мой родны і цярпець за ўсіх.

За Край свой, за Любую сэрцу Беларусь яна і змагалася. І пакутавала. Як вядома, на падставе артыкулаў 66 і 76 Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР муж і жонка Геніюшы ў 1948 годзе былі асуджаны Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР на 25 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў. Пакаранне адбывалі асобна. На цэлыя восем гадоў яна стала ўжо не столькі Л. Геніюш, колькі асуджанай "0-287" — такім быў яе нумар. І толькі камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 мая 1956 года ўлічыўшы добрасумленныя адносіны Л. і Я. Геніюшаў да працы, зменшыла тэрмін пакарання. Хоць, дарэчы, абвінавачвання не зняла. Тады і прыехалі Геніюшы ў Зэльву, пасяліліся ў самым цэнтры гарадка.

Дэбютавала Л. Геніюш вершамі ў 1939 годзе, а першы зборнік "Ад родных ніў" выдала ў 1942 годзе ў Празе і прысвяціла яго "братом і сёстрам на чужыне". Наступную ж кнігу ёй давялося чакаць ажно да... 1967 года — акурат тады пабачыў свет зборнік "Невадам з Нёмана". Ды і то не без падтрымкі Саюза пісьменнікаў, найперш Максіма Танка. Выхад кнігі прыхільна сустрэлі ўсе, хто не на словах, а на справе быў за беларускасць. А. Мальдзісу нават удалося выступіць на старонках "Звязды" з рэцэнзіяй. Адам Восіпавіч даў сваёй публікацыі характэрную назву — "Іскрыцца паэзіяй невад...", звярнуўшы найпершую ўвагу на паэму "Куфар": "Разам з аўтарам чытач адкрывае века старадаўняга бабулінага куфра і любуецца адмыслова вытканымі посцілкамі і палотнамі, дыванамі і хусткамі, паясамі і світкамі. Яны ўвабралі ў сябе ўсе колеры вясёлкі. Яны захоўваюць цяпло чалавечых рук, якія выткалі ўсю гэту прыгажосць. І таму паэма "Куфар" успрымаецца як гімн чалавеку-працаўніку, чалавеку-стваральніку, чалавеку-мастаку".

Але гэта не значыць, што пасля выхаду кнігі Ларыса Антонаўна атрымала сапраўднае прызнанне. Дзе там! Хіба маглі паважаць таго, хто адмаўляўся прымаць савецкае грамадзянства?! Так і працягвала жыць Ларыса Антонаўна непрыкметна ў Зэльве, радуючыся толькі прыезду самых блізкіх сяброў, што не баяліся наведвацца да яе. А гэта таксама было далёка няпроста, бо за домам Геніюшаў пастаянна назіралі адпаведныя службы.

Пра што і расказаў у прадмове да публікацыі ў часопісе "Маладосць" у 1990 годзе (пасмяротнай, вядома) ці не галоўнай кнігі Л. Геніюш — мемуарна-мастацкай аповесці Міхась Чарняўскі. Пры жыцці ў Ларысы Антонаўны выйшлі яшчэ тры кнігі паэзіі — дзве "Казкі для Міхаські" (1972) і "Добрай раніцы, Алесь" (1976) для дзяцей і "дарослая" — "На чабары настоена" (1982). Найбольш жа поўна паэтычная спадчына Л. Геніюш прадстаўлена ў аднатомніку "Белы сон" (1990), да выхаду якога спрычыніўся незабыўны Барыс Іванавіч Сачанка.

У планах выдавецтва "Мастацкая літаратура" — Збор твораў Л. Геніюш у двух тамах. Дай Божа, каб пры сённяшніх цяжкасцях ён выйшаў! А пакуль [illegible] памятаць, што была ў нас такая [illegible]этэса. Хаця чаму была? [illegible]ёсць і заўсёды будзе! Ларыса [illegible]тонаўна Геніюш, чалавек [illegible]рамадзянін, якім не можа не ганарыцца нацыя.

Паэзія

Мікола КУСЯНКОЎ



# ЛЕЦІШЧА

## СУЧАСНЫЯ БУКОЛІКІ

### 1. ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Мяжа з суседам —
Труба жалезная.
З другім —
Жалезны таксама
Прэнт.
Чатыры соткі —
Плошча маёй незалежнасці,
Я сам і прэм'ер тут,
І прэзідэнт.
Аж страшна —
Такая мне тут свабода!
Пішу
І як бы спрабую на смак:
Атрута!
Опіум для народа! —
Лепш бы я сеяў на сотках
Мак.

### 2. НОЧ ПАДЛІКУ БЮЛЕТЭНЯЎ

Калі выбіралі
Першага прэзідэнта
І недзе ўначы
Ліхаманкава
Падлічвалі бюлетэні
(Хто перамог?),
Я хваляваўся таксама:
Не спаў,
Бо на чатырох маіх
Незалежных сотках
Была першая
Па-сапраўднаму цёплая
Летняя ноч,
І цешыла думка,
Што
На суверэннай маёй
Тэрыторыі
Пойдуць нарэшце ў рост
Агуркі.

### 3. ЗМЕНА ЭПОХ

Ну вось —
Абзавёўся і самаварам.
Вядома,
Яго я прывёз на дачу.
Мяшчанскім сваім
Любуюся тварам,
Што ў самавары,
Бы ў люстры,
Бачу.

У ім
Эпохі нядаўняй, вялікай
Зіхотка-медныя
Гінуць фанфары.
І трубы,
Што ўчора нас некуды клікалі,
Таксама
Памерлі ў маім самавары.

### 4. АБМЕН НОТАМІ

Сусед зачытаў мне
Грозную ноту пратэсту:
Мая маліна
Перайшла нашу агульную з ім мяжу
І рушыла ў наступ
На ягоную бульбу.

У адказ
Я выступіў з цвёрдай заявай:
Ягоныя парэчкі
Навіслым голлем
Нахабна ўварваліся
Ў маю паветраную прастору,
І калі гэтай агрэсіі
Не будзе пакладзены канец,
На дапамогу
Абмежаванаму кантынгенту маліны
Я пашлю
Яшчэ і ўзброеную
вострымі калючкамі
Ажыну.

На гэта
Сусед адказаў мне
Чарговай нотаю,
І мяне вельмі здзівіла
Яго пячорная нецывілізаванасць —
Так многа
Недыпламатычных выразаў
Было ў ягонай другой ноце.

### 5. АНАНІМКА

Капусту ссякаюць
Амаль што ўзімку.
Ды перш чым зямля падмярзаць
пачала,
Няйначай як Хрэн
Напісаў ананімку.
А на каго?
На Качана!
І давялося мне
Ліст за лістам
Яго раздзяваць:
Два лісты
І тры...
Ну так —
Зверху быў ён
Не надта чысты,
Затое
Бялюткі ён быў
Унутры!..

### НАВОШТА?..

Не ведаю, хто ты, грузін ці абхаз,
Ды помню, ты прыязджаў да нас.
І быў я, прызнацца, не вельмі рад,
Як ты на далоні падкідваў гранат —
Падхвальваў, каб заламаць цану.
І ўсё ж
Навошта ты на вайну —
На смерць сваю —
Прамяняў Камароўку?
А з ёй і мінскую, мабыць, сяброўку,
Бо нашых жанчын спакушаў ты,
змей, —
Купляў іх пяшчоты...
Няўжо ж цікавей
Адчуць у руцэ не гранат,
А гранату?
Навошта пачаў ты крывавую звадку —

Не ведаю, хто ты, абхаз ці грузін,
Каўказа, і намі любімага, сына?..
Навошта
Набраклая гневам тваім
Вінаградная гронка?
Навошта ў далоні здранцвелай тваёй
Не лімон, а лімонка?
Жанчынай вясёлаю ў Мінску
Яшчэ не забыты,
Навошта ляжыш ты забіты?
Навошта?

### ЖАНЧЫНА І БУСЕЛ

Ён ля завадзі, слынны
Дом, дзе шал і садом.
Дах нароўні з буслінным
Дубам тым і гняздом,

Дзе гаруе бусліха:
"Божа мой, што за час.
Мала рознага ліха,
Дык і гэты іх джаз".

Так і ёсць — да паўночы
Непрытоены грэх:
Самба, румба і Жаночы
Віск пад дубам і смех.

І з усімі да ўпаду
Там жанчына адна
Зноў танцуе ламбаду...
Потым — ціш да відна.

Не грымяць дэцыбелы.
Бусел! Гэткая ціш —
Спі... Ды некуды, белы,
Ты на золку ляціш.

Ну, канечне, — прычына:
Зноў да светлай вады
Прыйдзе т а я жанчына —
Дык і рупіць туды.

Перад буслам на дамбе
(Ён такі ўжо ён свой)
Зноў ускіне, бы ў самбе,
Рукі над галавой —

Плацце лёгкае здзене,
І загар — нібы жар.
Ёй пяшчотным адценнем
Золак ляжа на твар.

І апошняе з цела
Упадзе на пясок.
Грудзі — паскаю белай,
Цёмны ўнізе мысок.

Пройдзе лёгкая боязь
Перш на мелкай вадзе.
Потым — завадзь па пояс,
А яна ўсё ідзе.

Чуе глыб немалую —
Страх азваўся і знік.
І ў вадзе ўжо цалуе
Грудзі ёй вадзянік.

Паплыла. Толькі ціхі
Плёскат чуеш ледзь-ледзь.
І дамоў да бусліхі,
Мабыць, трэба ляцець.

Зноў яна заўздыхае
У вялікай журбе:
"І навошта кахаю
Я такога цябе?

Надта пошук твой слабы:
Злётаў к дамбе на плёс,
А ніводнае жабы
Дзецям зноў не прынёс".

З паэтычнай пошты

Сцяпан СЯРГЕЙ

### МАЛІТВА

Я, магчыма, ізноў
Перад Богам грашу —
Гнеў у сэрцы маім
Да чыноўніка зброду,
Што народу майго
Здратавалі душу,
І гадуюць на змену
Манкуртаў пароду.
Зноў раздолле зладзеям,
Лафа ірвачу,
Хтось хаўтуры спраўляе
Па нашай свабодзе.
Я малітву адну
Неадступна шапчу:
Хай прачнецца душа
У цябе, мой народзе.

●

*Б. ДАВІДЗЮКУ*

Мы жывём на халоднай планеце
Паміж зоркамі і небыццём,
Свайго часу нялюбыя дзеці,
Паланёныя лёсам-жыццём.

Ты скажы: у якім вымярэнні
Прападае бадзяга-душа,
Ападае зямелька з карэнняў
Ля апошняй мяжы-рубяжа.

Падманула нас зорка-удача,
І над полем,
мо ў тысячны раз,
Завіруха зімовая плача.
Ах, які ты бязлітасны, час!

Зоркі ціха патухлі ў Сусвеце,
Поўня-дзень узышла
над жыццём,
І душы так трывожна на свеце
Паміж памяццю і забыццём.

●

Ужо за сорак, дружа, нам з табою.
Жаўцее клён
на восеньскай мяжы,
І цяжка над штодзённай мітуснёю
Узвысіцца пакутніцы душы.

Пра хлеб надзённы не пакіне клопат,
Жыццё пражыць —
не поле перайсці.
І свой уласны, самы горкі вопыт —
Галоўны наш настаўнік у жыцці.

Самотна будзе першы ліцік падаць,
Апалены бязлітасным агнём.
Да шчасця мы ідзём праз радасць,
А ісціну праз боль мы пазнаём.

*г. Мінск*

Галіна БАГДАНАВА-САЧАНКА

# ДУШАЛОВЫ



## САМОТНАЯ ПРЫПАВЕСЦЬ

*Не хадзі ты, дзядзька багаты,*
*Дзе галота п'е!*
*(З нашае любімае песні)*

Два племені, два народы ніхто не памятаў ужо, колькі стагоддзяў жылі непадалёк адзін ад другога. Адзін скрозь вякі мацаваў, гартаваў свой Дух, і яго назвалі Народам Моцнага Духу. Другі, надта й не дбаючы, ад прыроды быў надзелены Вялікаю Душой, і яго нараклі Народам Вялікае Душы.

Дух першага праз пэўную колькасць гадоў зрабіўся настолькі моцным, што яго час ад часу даводзілася выпускаць, і тое, што ўсе суседзі рабілі саромеючыся і пераважна ў прыбіральні, Людзі Моцнага Духу дазвалялі сабе рабіць пры ўсіх, дзеля чаго нават вынайшлі крэслы і зэдлікі з дзіркамі (мы купляем падобныя нашым малым хадзіць на гаршчок). Што ж датычыць Велічы Душы другога народа, то яна паступова (падкрэсліваю, сама па сабе) дасягнула гэткіх памераў, што народу пачало здавацца, ён не здолее ўтрымаць яе самастойна, і пачаў ён гарнуцца то да суседзяў з Душою Больш Разняволенай, то да суседзяў з Душою Больш Шырокаю...

І толькі лепшыя з лепшых Вялікадушныя падарожнічалі далей, цікавіліся, што ж робіцца ў іншых народаў, у тым ліку і ў Народа Моцнага Духам. А там ужо вынайшлі машыну для друкавання кніжак, і адзін Чалавек Вялікае Душы хутка засвоіў гэтае майстэрства. Не дзеля ўласнае славы і прыбытку, а адзінае дзеля прасвятлення, ачышчэння ды ўмацавання напраўду Вялікае Душы свайго народа, дзеля таго, каб спраўдзіўся наканаваны яму Богам зорны лёс.

Ды толькі пэўна Вялікая Душа даецца не дзеля вялікіх ведаў, а дзеля вялікага болю. Гэты боль скрозь усе гістарычныя ды асабістыя несправядлівасці, скрозь войны, хваробы, што жорсткімі хвалямі безвыходнасці праносіліся, руйнавалі і так не надта шчодрую зямлю, дзе жыў, нікога не крыўдзячы, працуючы да сёмага поту і спяваючы тужлівыя, светлыя свае песні Народ Вялікае Душы, гэты больш паглынаў, глушыў усё і найперш жаданне нешта спазнаваць, перайначваць у гэтым ці тое Богам, ці тое Д'яблам падораным жыцці. Народ Вялікае Душы гарнуўся па-ранейшаму то да суседзяў справа, то да суседзяў злева, вучыўся гаварыць на іхніх мовах, спяваць іхнія песні, ды што там, шчодра адорваў суседзяў мастакамі, паэтамі, музыкамі, акцёрамі, а яшчэ, глушачы свой лёсам наканаваны вялікі боль, шмат піў і маліўся. Пілі пераважна мужчыны. Маліліся за іх, за сябе, за дзяцей жанчыны. Толькі лепшыя з лепшых, мацнейшыя з мацнейшых спрабавалі вярнуць Вялікай Душы годнасць, выхаваць у свайго дабрэйшага і шчадрэйшага ў свеце народа Моцны Дух...

А між тым Народ Моцнага Духу, прывучаны да парадку ў жыцці, у думках і пачуццях, стварыў дасканалую, падобную на цвёрды празрысты крышталь філасофію, вытанчаную, срэбрам шытую паэзію, глыбокую, зорную музыку... І ўсё ж чагосьці не хапала яму ў такім здавалася ж заможным, размераным, ціхамірным жыцці... Ці тое Моцны Дух шукаў выйсця. Ці тое народу не ставала Вялікае Душы. І тады, як там яго звалі старажытныя рымляне, Бог вайны Марс з радасцю прыняў так акуратна, дасканала выхаваных воінаў у свае шэрагі...

Некалькі разоў выдатна ўзброеныя, моцныя духам людзі прыходзілі на зямлю тых, хто меў адно што Вялікую Душу ды працавітыя рукі (кемнасцю Бог тых, хто працуе, ніколі не абдзяляе). Людзі Моцныя Духам хацелі завесці на чужой зямлі свой ідэальны парадак. А Людзі Вялікае Душы звыкліся падначальвацца не чалавеку, а прыродзе... Яна, гэтая прырода, шматгалосая, шматаблічная не выносіла нічога стэрыльнага і ідэальнага, яна паўстала. Чужынцы душылі тых, хто не даваў ім выканаць іхнюю, як ім здавалася найвысакародную місію, серавадародам, яны душылі іх вяроўкамі, голадам, хваробамі, палілі, стралялі, рэзалі, яны вынайшлі цэлыя машыны для знішчэння нязкораных, названыя душагубкамі, але Вялікая Душа перамагла Моцны Дух. Больш за тое, нават тыя, каго Людзі Моцнага Духу паспелі вывезці да сябе, нават дзеці, не зважаючы на ўгаворы больш уладкаваных у жыцці іншых насельнікаў планеты, упарта вярталіся дамоў, да разбураных сваіх гнёздаў.

Вялікая Душа перамагла Моцны Дух. Але паражэнне, безнадзейнасць, задараецца, гартуе моцных. А перамога кволіць слабых.

Адзін народ, пераможца, на ўсю сваю Вялікую Душу аплакваў ахвяры і ўпіваўся Перамогаю... Другі ж народ, пераможаны, сцяўшы зубы, захаваўшы што падалей крыўду, пачаў нанова наводзіць ідэальны стэрыльны парадак, хай сабе толькі на сваёй зямлі, у кожным нават самым маленькім гарадку, у кожнай сям'і. Каб стол быў штодня засцелены крухмальным абрусам, каб хораша пахла нават у прыбіральні, і галоўнае, каб дзеці, дзеці іх, пераможаных, не страцілі свайго гонару, годнасці, каб і надалей мацавалі, гартавалі яны свой Дух. Ізноў Народ Моцнага Духу зажыў звыклым, багатым, размераным, разлічаным па хвілінах жыццём. Жылі б ды жылі. Але ж вось чуюць, у таго Народа Вялікай Душы, якому яны хацелі ж, хацелі прынесці вызваленне і парадак, зноў усё бязладна. Бяда за бядою.

І тады Народ Моцнага Духу ўжо без зброі рушыў да гэтых, іншага слова не падбярэш, "недацёпаў", што гаварылі невядома на якой мове, спявалі невядома якія песні, а пілі, о, пілі яны на святах, хаўтурах, а то і штодня... Што яны пілі, аднаму Д'яблу вядома... Не, цяпер Народ Моцнага Духу не вёз з сабою душагубак. Ён добра засвоіў, што нягоды ды страх смерці мацуюць дух, а вось дабрачыннасць, тая кволіць, безнадзейна кволіць душу... Народ Моцнага Духу прывёз і гасцінна расчыніў па ўсіх гарадах і нават вёсках душалоўкі. У гэтых маленькіх крамках на колах было ўсё — цукеркі, жуйкі, яркія часопісы, са старонак якіх самазадаволена ўсміхаліся абсалютна шчаслівыя Людзі Моцнага Духу, былі моцныя напоі для тых, хто п'е, і табяеткі, каб не радзіліся дзеці для тых, хто займаецца каханнем, было зношанае, але акуратна вымытае і адпрасаванае адзенне, якое кілаграмамі аддавалі амаль за бясплатна.

Ад напоеў у мужчын муціўся розум, слабелі рукі і зусім пераставала балець душа (нехта сцвярджаў, што ў іншых землях гэтыя напоі даюць толькі свінням, каб лепш гадаваліся і не пра што не думалі, калі свінні пра што-небудзь калі-небудзь і думалі, ды хіба ж разбярэш, што там напісана на іхніх каляровых этыкетках!). Ад таблетак жанчынам рабілася мутарна, іх раздражнялі не толькі ўласныя мужы, але і дзеці, ды што там — нават колер шпалераў і фіранак ва ўласнай хаце.

А элегантныя высакалобыя замежныя гандляры, Моцныя Духам, багатыя на грошы, гаспадарамі хадзілі па іхнімі дзядамі так і не скоранай зямлі. Яны ахвотна куплялі карціны, каб аздобіць свае добраўпарадкаваныя дамкі на радзіме, яны запрашалі, везлі з сабою зусім збяднелых мясцовых мастакоў і акцёраў, бо сапраўды навошта Народу Вялікай Душы шчэ мастакі і акцёры, навошта расчульваць, куды ж больш гадаваць яе, гэтую Душу? Яна ж і так гняце, прыгінае да зямлі... Хіба можна лётаць з такімі вялікімі, важкімі крыламі?

Вось у гэты, спрыяльны для Моцных Духам час, жадаючы крыху падзарабіць, а болей усё ж дзеля цікавасці, дзеля спазнання неспазнанага (у Моцных Духам боль жыцця ніколі не глушыў цікавасці да жыцця) адзін з Моцных Духам, малады шчэ, назавем яго пан Н., адчыніў краму (чытай душалоўку) у далёкай палескай вёсцы. Чаму менавіта там?.. Гэта было і засталося ягонаю таямніцай. Казалі, быццам бы ягоны дзед калісьці добра-такі тут патаптаўся, і нават ці не загінуў. Але можа гэта ўсё былі фантазіі тутэйшых людзей. Ад акропленае моцным напоем Вялікае Душы ого як працуе фантазія...

На полі, з вакна крамы было відаць, абсыпаўся немаведама дзеля чаго пасеяны авёс, а людзі стаялі ў чарзе, за немалыя грошы куплялі ў пана Н. прывезеныя з ягонай далёкай краіны аўсянку, гарох, муку, мясныя кансервы, маргарын і раз ці два на месяц (каму ўжо зусім не маглося, то й часцей) моцны, зафарбаваны нечым да прыкрасці салодкім напой у зялёных бутэльках. Яны навучыліся, ці проста ўспомнілі, як звяртацца і дзякаваць гаспадару на мове Моцных Духам, хоць ён даўно засвоіў і разумеў тутэйшую гаворку.

Пажыўшы сярод тых, у каго ледзь не штовечар шчымела, балела Душа, Чалавек Моцны Духам нічога не мог з сабою зрабіць, пачаў нудзіцца, сумаваць па сваёй сям'і, па жонцы і двух малых шчэ зусім сынах... Асабліва нясцерпнымі ставаліся вечары і раніцы. Па вечарах, калі зачыняў ён краму, даводзілася вяртацца да гаспадыні, пажылой адзінокай кабеты, якая, узяўшы чарку, сядала вышываць навалачкі і да паўночы ледзь чутна спявала балесным, тоненькім галаском. А зраніцы, калі прачынаўся і бачыў абадраны ці пагрызены мышамі шматок шпалераў, рабілася нясцерпна ад усведамлення, што ён не дома. Ні разумныя кнігі, ні штораніншняя гімнастыка ды халоднае абліванне не дапамагалі... А тут яшчэ хлапчук — бялявы, засыпаны рабаціннем кірпаносы падлетак, што гадзінамі стаяў пры дзвярах ягонае крамы, зачаравана разглядаючы рэчы, выстаўленыя на продаж. Ён так прагна ўслухоўваўся ва ўсе ягоныя словы, імгненна лавіў, схопліваў кожны ягоны пагляд, усмешку, знак... Пан Н. частаваў хлапчука жуйкамі ці шакаладам і той са словамі ўдзячнасці пакідаў гэткі па-сабачы верны задумлівы пагляд чысцюткіх сваіх вачэй, што не было моцы ўстояць, хацелася прыгарнуць, пачасаць у таго за вухам, павесці за сабою... Праз колькі часу пан Н. ужо ведаў, што маці хлапчука памерла пры родах, бабка з дзедам, якія гадавалі яго, зусім старыя і нямоглыя, а бацька п'е не прасыхае, і вырашыў узнагародзіць малога за вернасць і адданасць. Ён узяў яго з сабою дамоў, у краіну Моцных Духам. Пакуль што толькі ў госці.

З Краіны Моцных Духам хлапчук вярнуўся ў яркай майцы з Мікі Маусам і стракатых шортах з пальмамі. Цяпер ён так хутка і спрытна гаварыў на мове Моцных Духам, што мала хто з вяскоўцаў разумеў, пра што гэта яны з панам Н. перамаўляюцца, з чаго ці з каго смяюцца...

Ізноў папаўзлі чуткі, што, маўляў, пан Н. хоча ўсынавіць хлопца, і што ўжо і ягоная жонка дала згоду, ды што там, ужо й новы дом купілі дзеля таго, каб у гэтага іхняга беспрытульнага падшыванца быў свой уласны пакой... Заставалася дробязь, ды не, зусім жа не дробязь — заставалася ўзяць распіску, згоду ў роднага бацькі хлапца, што той не супраць, каб хлопца звезлі на чужыну.

А сын, адораны, ахмелены кароткаю ды пэўна ж надта плённаю для Людзей Моцных Духам, вандроўкаю, — раз вось так, з першага разу паланілі хлапечую душу, сын прагнуў як мага хутчэй вырвацца, адляцець з роднае вёскі. Добра ведаючы свайго бацьку, ён сам параіў свайму апекуну ісці па распіску з зялёнаю пляшкай. Хоць можна было і без яе. Бацька быў ужо добра паддаўшы. І хапком заядаў недзе па дарозе ўхопленае салёным гурком.

Ад хвалявання (такія госці да яго, ды яшчэ з нейкаю Просьбаю!) ён ледзь не папярхнуўся, і пот густа высыпаў на ягонай ледзь прыкрытай засаленымі валасамі лысіне. У рэшце рэшт пракаўтнуўшы, уцяміўшы, у чым справа, ён адразу расчуліўся, падсунуў госцю мутную шклянку і пакет з купленымі па дарозе ў вясковай краме салёнымі гуркамі (што-нішто і мы робім і прадаём!), а сам, напусціўшы на твар сур'ёз, узяўся шукаць па кішэнях ручку, якой там, вядома ж, ніколі не ляжала. Пан Н., які не выносіў гарэлачнага перагару, а ім, здавалася, патыхалі нават шпалеры, раз-пораз далікатна прыкладаў да носа надушаную хусцінку. А гатовы згарэць з сораму хлапчук нервова хадзіў па хаце і баяўся аднаго, каб бацька не перадумаў, ці яшчэ лепш не бразнуўся вось тут, вось зараз на падлогу ды не заснуў.

Але не. Распісаўся. Залачоным пяром пана Н.

Хлопец кінуўся да свайго, цяпер ужо законнага апекуна на шыю. А няшчасны ягоны бацька, малады ж шчэ зусім чалавек, расчулена і нават ці не з замілаваннем паглядаючы на важнага госця, адчуваючы, што ніколі ў яго не будзе ні такіх разумных вачэй, ні такіх залачоных акуляраў, ні вось гэткае грэблівае ўсмешкі, і насовачкі надушанае, якую той усё трымае ля носа, таксама ніколі не будзе, раптам загаварыў, таропка, нават похапкам, спяшаючы давесці тое, што ўжо ніколі нікому не давядзе:

— Хай едзе... Аблюбуваў ты майго хлапца, дык хай едзе... Горай не будзе. Унё, мой бацька, ягоны дзед значыць... расказуваў, што ў вас там чысто... парадак... Яго малога з маткаю, сілаю, мо й твой дзед, з сабакамі да вас загналі... А во мо што пажыў там у вас, памучыўся, дык чалавекам стаў... Хоць і хварэў, а жыццё, як песню пражыў... А я што... Гнюсь, а не чалавек... Здрабнела мая душа, ссохлася... Хай едзе... Мо, як дзед, чалавекам будзе...

А сын са сваім новым апекуном былі ўжо на двары, і пан Н. грэбліва адклаў ад носа, схаваў у кішэню надушаную хусцінку.

Над сцішанаю вёскай весела пaміргвалі буйныя жнівеньскія зоркі.

Назаўтра ўвечары, пакінуўшы мясцовым гандлярам сваю краму на колах, яны ад'язджалі. І ў расчыненае вакно машыны ляцелі наўздагон з толькі дабудаванага Дома культуры хораша з'яднаныя ў хор моцныя жаночыя галасы:

**Дробна-драбніца,**
**Дробна-драбніца,**
**Дробны дождж ідзе.**
**Сабралася бедна галота**
**Мёд, гарэлку п'е.**
**П'ем мы гарэлку,**
**П'ем мы вішнёўку,**
**Будзем піць віно...**

Пан Н. непатрэбную яму цяпер тутэйшую гаворку, тутэйшыя песні зусім не ўспрымаў, думаў пра сваё. Хлопчык у майцы з Мікі Маусам скурчыўся на заднім сядзенні і задрамаў. Ён шчасліва ўсміхаўся, ён мроіў сваім новым жыццём, якому зайздросцілі ўсе вясковыя хлопцы...

*1994 г.*

## ВОСЬ ГЭТА БУДЗЕ "ВОСЕНЬ"!

**Ліцэйскае брацтва спраўляе юбілей — Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі рыхтуецца да свайго 60-годдзя. Пра гэта раз-пораз нагадваюць і друк, і канцэрты, і прэзентацыі, шэраг якіх ужо быў праведзены насустрач юбілейнай даце. Афіцыйны "дзень нараджэння" ліцэя — колішняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі — 15 кастрычніка. А вось кульмінацыя святкавання чакаецца ў лістападзе: наконт гэтага дамовіліся нядаўна кіраўнікі ліцэя ды Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Чаго ж чакаць? "Беларускай музычнай восені", якая сёлета будзе цалкам прысвечана юбілею ліцэйскага брацтва і праведзена ягонымі сіламі. Гэта будзе паўнавартасны міжнародны фестываль мастацтва, бо выхаванцы нашай унікальнай музычнай установы з'едуцца ў Мінск літаральна з усяго свету — з Грэцыі, ЗША, Нарвегіі, Расіі, Германіі ды іншых краін. Са сваімі праграмамі выступяць таксама педагогі ліцэя і самыя яркія цяперашнія яго навучэнцы. Плануюцца сімфанічныя канцэрты пад кіраўніцтвам дырыжораў — колішніх ліцэістаў, канцэрт з твораў кампазітараў, узгадаваных у гэтых сценах, эстрадная праграма... Словам, рыхтуецца свята і для музыкантаў, і для слухачоў, якія падчас "Беларускай музычнай восені" пабачаць рэдкаснае суквецце вельмі розных талентаў, паяднаных прыналежнасцю да няўрымслівага ліцэйскага брацтва.**

**С. Б.**

## ШАНЦ — СЫГРАЦЬ У ШВЕЙЦАРЫІ

**Нядаўна ў Беларускай акадэміі музыкі прайшоў рэспубліканскі тур Міжнароднага конкурсу "Песні і музыка Усходняй Еўропы", якім апекуецца вядомая фірма "Матарола". Па сутнасці, гэта быў грандыёзны канцэрт з удзелам лепшых маладых і юных музыкантаў Беларусі, які сабраў шматлюдную аўдыторыю слухачоў. Па выніках адбору лепшымі аказаліся лаўрэаты міжнародных конкурсаў трубач Андрэй Кавалінскі, піяніст Дзмітры Марозаў ды Струнны квартэт, у складзе якога, сярод іншых, таксама наш малады міжнародны лаўрэат віяланчэліст Мікаэл Самсонаў. Калі міжнароднае журы зацвердзіць гэтыя вынікі, наша музычная моладзь на пачатку кастрычніка паедзе ў Швейцарыю і будзе ўдзельнічаць у заключнай канцэртнай праграме гэтага еўрапейскага фэсту.**

**С. Б.**

## ПАДАБАЕЦЦА ГЛЕДАЧАМ



**Вольга Кажэўнікава (на здымку) — салістка ансамбля народнай песні "Галубіца" полацкага завода "Шкловалакно". Песні, танцы і жарты, з якімі яна выступае, падабаюцца гледачам.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

*Вандроўкі*

# У БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКАЛОГІІ ПАБОЛЕЛА СЯБРОЎ...

КОЖНЫ РАЗ, збіраючыся на пошукі матэрыялаў па гісторыі нашай старадаўняй музыкі, я міжволі задаюся пытаннем: што там, у таямнічай далечыні і блізкасці бягучых насустрач дзён? Ці пераплавіцца моц маіх спадзяванняў у плённыя вынікі ды цікавыя падзеі? Бо ў пошукавай працы, як і ва ўласна творчай (а хіба творчасць — не пошук, а пошук — не перадумова ды працяг творчасці?), спалучэнне абставін, дапамога лёсу ды канкрэтных людзей настолькі ж істотныя, наколькі й твае асабістыя намаганні. І як часта твая праца зводзіцца на нішто знешнімі акалічнасцямі!.. Здараецца, вывучаны ўсе даведніцка-інфарматыўныя матэрыялы, прагледжаны слоўнікі, энцыклапедыі, артыкулы ды манаграфіі, знойдзена нават святая святых — шыфр-сігнатура, пад якім захоўваецца той ці іншы нотны рукапіс. Ды прыязджаеш за тысячу кіламетраў у жаданы архіў, а там, аказваецца, й не бачылі ніколі тых матэрыялаў, ці ўчора яны яшчэ былі, а сёння — ах, як шкада! — аддадзены на рэстаўрацыю. Ці страчаны падчас зусім нядаўняга пажару (як у сумна вядомай бібліятэцы Акадэміі навук Санкт-Пецярбурга)...

Перад апошняй "вандроўкай па ноты" я хвалявалася ці не ўдвая болей, чым звычайна: упершыню ў жыцці даводзілася выпраўляцца ў Германію — краіну, куды вядуць многія нашы музычна-гістарычныя сцяжынкі. У 19 ст. тут жыў і пісаў свайго "Фаўста" Антон Радзівіл, тут вучыліся Манюшка ды Ельскі. Яшчэ раней — у другой палове 18 ст. — сюды часта прыязджаў будучы лібрэтыст "Агаткі" Мацей Радзівіл, наведваліся Міхал Казімір ды Міхал Клеафас Агінскія. Нарэшце, менавіта з Германіі трапіў у Нясвіж, каб стварыць тут музыку "Агаткі", балета "Арфей у пекле", іншыя кампазіцыі ды назаўсёды застацца на Беларусі, Ёган (Ян) Голанд...

Ужо вырашаны ўсе арганізацыйныя праблемы — дзякуючы Беларускай акадэміі музыкі; ласкай Беларускага фонду Сораса ўдалося зняць праблемы фінансавыя; еду не адна — зноў вызвалася на дапамогу надзейная спадарожніца і руплівая шукальніца — студэнтка-музыколаг Света Немагай... Але хваляванне не пакідае мяне. Як сустрэнуць нас у тамтэйшых бібліятэках, ці зразумеюць, наколькі важна для нас не толькі знайсці, але й сфатаграфаваць ці ксеракапіраваць старадаўнія матэрыялы? Ці дазволяць зрабіць гэта? Бо паводле правілаў усіх сховішчаў свету, выданні і рукапісы 17—18 стст. капіраваць не дазваляецца. Праўда, некаторыя супрацоўнікі бібліятэк разумеюць, што жыццё гістарычных дакументаў будзе доўгае толькі тады, калі яны ўвойдуць у навуковы ўжытак і набудуць сваё месца і "гучанне" ў сучаснасці...

ГЕРМАНІЯ ўразіла перш за ўсё неверагоднай адладжанасцю штодзённага жыцця, у якім усё нібыта прыстасавана спецыяльна і менавіта для вас. Вы не мусіце хаваць галаву ў плечы пад жорсткім, нібыта экзаменуючым на жывучасць, позіркам прадаўца, швейцара ці афіцыянта. Не трэба выкарыстоўваць той адпрацаваны ўжо гадамі механізм самаадхілення ад знешняга свету, які дапамагае захаваць свет унутраны...

Зрэшты, усё гэта можна было прадбачыць. Ашаломіла іншае: цалкам "марсіянская" (як слушна заўважыла Святлана) дзяржаўная бібліятэка Берліна — неверагодная па сваіх памерах, тэхнічным абсталяванні і нават "гучанні" — ціхім, лагодным, нібы шэпт дрэў у лесе, гучанні асвятляльных і кварцуючых прыбораў... У вялізных, прамяністых залах усё аўтаматызавана. Кожны чытач мае на стале персанальны камп'ютэр і можа выкарыстаць капіравальны аўтамат. Літаральна на працягу паўгадзіны для цябе знаходзяць і прыносяць рукапісы з самых далёкіх сховішчаў, а для нас, іншаземцаў, гэта рабілі яшчэ хутчэй. Сам загадчык аддзела — доктар Янэцке, даведаўшыся пра мэты нашага візіту, вызваўся дапамагаць у пошуках. Заўважу, гаворка ішла не пра каштоўнасці, што калісьці былі вывезены з Беларусі ў Нямеччыну, а пра матэрыялы, якія захоўваліся тут спрадвеку — рукапісы і стардрукі Радзівіла, Голанда, Русо. Нам хутка прынеслі і дазволілі скапіраваць не толькі нотныя выданні 18-га стагоддзя, але й — што ўжо зусім неверагодна — старадаўнія рукапісы!

Тое ж — у Франкфурце-на-Майне: паўсюль зялёнае святло ў працы і добразычлівасць. Але з гэтым, цалкам амерыканізаваным горадам, у якім мадэрн люстраных небаскробаў суседнічае з сівой даўнінай касцёлаў і кірхаў, звязаны ў нашай памяці падзеі не менш цікавыя, чым уласна навуковыя знаходкі. Маю на ўвазе сустрэчу з Барысам Кітам. Думаю, няма патрэбы прадстаўляць яго, колішняга навагрудскага хлопца, змагара за беларускую культуру, вязня фашысцкіх засценкаў, потым — эмігранта і нарэшце — гордасць амерыканскай і сусветнай астранаўтыкі, вынаходцу матэматычнай мадэлі паліва для ракеты, што панесла чалавека да Месяца. Яго сапраўды трэба бачыць — жвавага, зусім маладога ў свае 85 гадоў чалавека, які шчыра радуецца сустрэчы з землякамі і мкнецца дапамагчы ім ва ўсім.

Ніколі не забуду, як Барыс Уладзіміравіч, даведаўшыся, што я захварэла ў дарозе, адразу прынёс усе неабходныя лекі. Як прыйшоў уначы на вакзал, каб праводзіць на цягнік Святлану, як яшчэ раней вызваўся быць нашым гідам ва Франкфурце і правесці нас у Міжнародны цэнтр нотных рукапісаў. Трэба было бачыць, як уразіла супрацоўнікаў гэтага цэнтра з'яўленне на парозе іхняга офіса самога Кіта! Яго ведаюць на Захадзе не толькі тэхнары, але й гуманітарыі, і гэта не дзіўна: доктар філасофіі ў галіне матэматыкі, энцыклапедычна адукаваны чалавек, знаўца ўсіх еўрапейскіх моў,



*Барыс Кіт — гасцінны гаспадар...*

ён мае глыбокія веды ў галіне сусветнай літаратуры, жывапісу, нават музыкі. Ягоныя меркаванні пра музычную культуру — менавіта культуру ў розных яе праявах — падаліся мне настолькі ж дакладнымі, наколькі парадаксальнымі. А калі Барыс Уладзіміравіч даведаўся пра некаторыя факты з гісторыі старадаўняй музыкі Беларусі, ён усхвалявана ўсклікнуў: "Я ўсім пра гэта буду распавядаць, лічыце, што вы знайшлі сапраўднага сябра беларускай музыкалагічнай навукі!" І потым, на расстанне:: "Пабачыце, у Еўропе вам паўсюль будуць дапамагаць у пошуках, бо карціна еўрапейскай культуры павінна быць адноўлена цалкам і максімальна поўна, а без беларускай культуры — неад'емнай часткі агульнаеўрапейскай — тое аднаўленне немагчыма".

САПРАЎДЫ, ягоныя словы аказаліся прарочымі. Я зразумела гэта даволі хутка, літаральна праз некалькі дзён, апынуўшыся ў Бельгіі. Падарожжа туды не было запланавана, але адкрыццё ўнутрыеўрапейскіх межаў, прыцягальнасць бібліятэкі Брусельскай кансерваторыі, дзе таксама захоўваюцца некаторыя надзвычай цікавыя для нашай навукі матэрыялы, літаральна не пакідалі выбару ў адказе на пытанне: ехаць туды ці не. Тым больш, што папярэдне, яшчэ ў Мінску, дамовілася пра магчымы візіт з бельгійскім прамыслоўцам Мішэлем Ланю, які ў першы свой прыезд на Беларусь пабываў на канцэрце нашай старадаўняй музыкі і адразу выказаў цікавасць да яе.

Беларусь называюць у Бельгіі на франка-італьянскі манер — "Бель-ля-русь", мабыць, падкрэсліваючы прыгажосць, мяккасць і спакой нашага краю. Мне ж адразу падалося, што тамтэйшая прырода не толькі па сваім візуальным, але й нейкім гукавым полі цалкам ідэнтычная нашай: тыя ж лясістыя прасторы, поўныя таямнічага шэпту дрэў і музыкі птушыных спеваў, тыя ж вільготныя лугі з асаблівай звонкасцю паветра над імі, тыя ж азёры з аксамітнай цішынёй, што раптам парушаецца гоманам качак... І толькі старадаўнія замкі 13—18 стагоддзяў, якімі літаральна абсыпана Бельгія, ды велізарныя шкляныя аўтасалоны, што месцяцца ўздоўж дарог, ствараюць уяўленне іншай цывілізацыі.

У Сінзі, невялічкім гарадку блізку Бруселя, дзе жывуць мае гасцінныя гаспадары, час, падаецца, запаволіў свой рух. Інакш не растлумачыш, якім чынам за некалькі дзён мне ўдалося столькі паспець: агледзець горад, сустрэцца і пасябраваць з многімі цікавымі людзьмі. З іх асабліва запомнілася сям'я нашчадкаў колішніх рускіх эмігрантаў, якія займалі высокія пасады пры імператарскім двары, а ў час выгнання вымушаныя былі блукаць па Еўропе ў пошуках прытулку ды заробку... Але традыцыі выхавання, інтэлектуальнай дзейнасці яны не толькі захавалі, але й перадалі сваім дзецям, якія ў сваю чаргу свята захоўваюць дух і літару даўно адышоўшай часіны і культуры...

А яшчэ, дзякуючы ініцыятыве спадара Жака Малерба, які таксама раней бываў у Мінску, мне ўдалося наведаць бельгійскі горад Льеж, радзіму А. Грэтры, кампазітара вельмі папулярнага ў нас у 18-ым стагоддзі. Ну, і канешне ж, збылася даўняя мара: я трапіла ў бібліятэку Брусельскай кансерваторыі, куды адвёз мяне шаснаццацігадовы сын маіх гаспадароў (а завуць яго зусім па-беларуску — Максім). У бібліятэцы дастаткова было назваць толькі прозвішчы кампазітараў — і ўважлівая супрацоўніца імгненна прыносіла іхнія творы з суседняга пакоя, дадаючы пры гэтым: "Калі жадаеце, я сама магу вам усё гэта ксеракапіраваць". Канешне ж, жадаю... І вось на маім стале чарговыя стардрукі...



Spiel ohne Karten,

oder

harmonische Unterhaltung für Anfänger

beym

Clavier mit zwey Violinen,

Bogenweise herausgegeben

von

Johann David Holland.

Zweyte vermehrte und veränderte Auflage.

Hamburg, 1781.



*Вакальныя творы Яна Голанда цяпер "у нашых руках"!*

ПАДРАБЯЗНАЕ апісанне ды аналіз прывезеных матэрыялаў — а сярод іх камерна-вакальныя ды інструментальныя творы Яна Голанда і Антона Радзівіла, опера Ж.-Ж.Русо "Вясковы чараўнік", якая ставілася ў Ружанах, нарэшце, здымкі першага беларускага нотадруку 16-га стагоддзя, што раней лічыўся беззваротна страчаным, — яшчэ наперадзе. Справа будучыні — і выканальніцкае ўвасабленне вернутых твораў. Аднак ужо цяпер відавочна, што не толькі канкрэтнымі музычнымі здабыткамі аказалася каштоўнай гэтая паездка, але й магчымасцю распаўсюджання за мяжой ведаў пра нашу культуру. А яшчэ — усведамленнем неабходнасці нашага сённяшняга "музычнага Рэнесанса" не толькі для беларускай, але й агульнаеўрапейскай культуры.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

Кіно

# "ВЕСТЭРН МОЖНА ЗНЯЦЬ І ПА ТЭЛЕФОНЕ..."

## ГУТАРКА З КІНАРЭЖЫСЁРАМ ВАЛЕРЫЕМ РУБІНЧЫКАМ

***У Беларусі ў мяне былі два знаёмыя кінематаграфісты. Валерый Рубінчык, з якім мы пазнаёміліся ў лёсавырашальны лістапад 1982-га (ён здымаў тады ў Таліне тэлефільм "Сэр Джон Фальстаф" з Анатолем Папанавым у галоўнай ролі). І Аркадзь Рудэрман, дакументаліст, аўтар карціны "Тэатр часоў перабудовы і галоснасці" (пра тое, як у Беларусі на пачатку перабудовы разгарнулі барацьбу са спадчынай вялікага мастака XX стагоддзя Марка Шагала, які меў неасцярожнасць нарадзіцца ў Віцебску, да таго ж не з тым "пятым пунктам", з якім трэба). Рудэрман зняў потым фільм пра Алеся Адамовіча, прасякнуты такім жа вострым болем за час і краіну...***

***Аркадзь Рудэрман загінуў у адной з "гарачых кропак": па чалавеку з кінакамерай вялі прыцэльны агонь.***

***Валерыя Рубінчыка, аўтара такіх карцін, як першы савецкі "гатычны чорны фільм" "Дзікае паляванне караля Стаха" і скандальная "Камедыя пра Лісістрату", я сустрэў у Мінску, можна сказаць, выпадкова: Рубінчык апошнія гады жыве ў Маскве, але сваю новую стужку "Краявід з трыма купальшчыцамі" зняў у Мінску, на знаёмай базе.***

**— Калі вы здымалі "Фальстафа", памёр Брэжнеў. Помню, як з-за жалобы давялося адкласці на няпэўны тэрмін публікацыю інтэрв'ю з Анатолем Папанавым. "Не шанцуе", — паскардзіўся я. Мой рэдактар, чалавек з гумарам, асцярожна заўважыў: "Ну, гэта як сказаць..." Потым, праўда, мы ў Таліне больш не здымалі, але генсекі прадаўжалі паміраць з палохаючай хуткасцю...**

— Я зусім не схільны смяяцца з Брэжнева, так бы мовіць, пасмяротна. Хоць і сам успамінаю тую сітуацыю не без гумару. Гасцініца "Алімпія" стаяла пустая, я спрабаваў дазваніцца да нумара, у якім жыў мой аператар, нарэшце, пачуў яго голас у слухаўцы. "Я трэці дзень не магу да цябе дазваніцца, — сказаў я. — Што вы тут робіце?" — "Як што? Смуткуем!"

Як успомню здымкі "Фальстафа", дык уздыхну. Гэта была суцэльная камедыя (а можа, і трагікамедыя) памылак. Хацелася б павярнуць час назад і зняць зноўку. Я выканаў вялізную кабінетную работу. Скампанаваў па кавалачках сцэнарый. Але, на жаль, мы рабілі гэта ўсё так паспешліва...

Кіно — дзіўнае мастацтва. У прынцыпе, фільм можа зняць кожны чалавек.

**— Калі я гляджу шараговыя расійскія фільмы апошняга часу, мне здаецца, што там гэты прынцып добра засвоілі.**

— І што з таго? Мы ідзём да грамадства, у якім кожны чалавек павінен мець усе магчымасці. Калі ласка, напішыце сцэнарый лепш, чым "Апошняе танга ў Парыжы", і пастаўце па ім карціну лепш, чым "Мінулым летам у Марыенбадзе".

**— Яшчэ 60 гадоў таму Ільф і Пятроў заўважылі з гэтай нагоды: "Не бойся, хлопчык, як у Эйзенштэйна ўсё роўна не атрымаецца".**

— Абсалютная праўда. Кіно можа зняць кожны. Толькі гэта не будзе мастацтвам, не будзе тым аўтарскім кінематографам, які ў Бунюэля, Феліні, Антаніоні... Кіно — гэта мастацтва, якое немагчыма пераказаць. Як музыка, як балет, як жывапіс. Скажам, я гавару вам: "Учора глядзеў "Жызель"; там танцаваў Нурыеў. Гэта чароўна!" Вы спытаеце: "І што ж ён такое рабіў?" А я: "Разумееце, ён там робіць вось так, а потым яшчэ вось так!" (Валерый Давідавіч з дзівоснай для ягонага ўзросту і мажнога складу грацыяй стварае штосьці накшталт балетнага па.) Вы недаўменна: "І што? На самай справе чароўна?"

Ёсць, вядома, камерцыйныя карціны, баевікі там усялякія, вестэрны. Гэта сюжэтнае кіно, тут усё можна расказаць. Але я ўвогуле прыхільнік аўтарскага кіно. У мяне такое адчуванне, што вестэрн можна зняць і па тэлефоне. Зразумела, паміж вестэрнамі ёсць розніца. Клінт Іствуд, які нядаўна атрымаў "Оскара" за фільм "Няма даравання", вывернуў вестэрн навыварат, зрабіў карціну ў традыцыях рускай літаратуры з дамешкам Чэхава і Дастаеўскага. Ягоны герой замест таго, каб з любой прычыны адразу ж смаліць з кольта, рэфлектуе. А сам жа Іствуд як акцёр здымаўся ў зусім стандартных вестэрнах.

Дык я пра стандартныя. Дапусцім, мы з вамі сядзім у бары гатэля "Эксельсіор" на бульвары Сансет, я здымаю трубку і тэлефаную на здымачную пляцоўку аператару, які дасканальна вывучыў мой густ. І кажу: "Няхай у кадры 27 коні імчаць ад узлеску проста да лесу". "Проста альбо трохі па дыяганалі?" — удакладняе аператар. "Проста!" І ўсё. Матор!

Але і ў такім кінематографе ёсць вялікія дасягненні. І тут магчыма тонкая сумесь жанраў. Тое, што зрабіў Таранціна ў "Pulp Fiction" ("Бульварным чытве"). Чаму ён атрымаў у Кане Залатую пальмавую галінку? Я спачатку не зразумеў, але, убачыўшы карціну, быў уражаны, таму што ён зрабіў "адкрыццё" назаўсёды. Як Эйзенштэйн з "Браняносцам "Пацёмкіным", як Гадар, Берталучы, Феліні. Змяшаў інтэлектуальнае кіно з гангстэрскім баевікам. У баевіку дзеянне — усё! А ў Таранціна два чалавекі на працягу паўтары частак сядзяць і размаўляюць на буйных планах.

**— Вы — прыхільнік пазажанравага, аўтарскага кіно?**

— Абсалютная праўда.

**— А як жа "Камедыя пра Лісістрату", якую паспяшаліся залічыць у жанр эратычнага фільма?**

— Я ахвотна перазняў бы яе. І не ў Грэцыі, на прыступках Акропаля, а на заднім двары "Масфільма", ля агароджы, каля сметніка.

Я некалі паставіў "Лісістрату" ў Мінску, у Тэатры-студыі кінаакцёра. Быў поспех, была захопленая рэцэнзія ў часопісе "Тэатр". Вось той спектакль мне па-сапраўднаму дарагі. А фільм... Мы прыехалі ў Грэцыю выбіраць натуру зімой. Дзьмуў вецер, ліў дождж. Гара Алімп стаяла ў снезе. Я падумаў тады: "Здаецца, намацваецца нітачка ад Арыстафана да кінематографа". А ў маі, калі мы здымалі, стаяла гарачыня. На небе — ні аблачынкі. Нейкая выцвілая анучка брудна-блакітнага колеру. І яшчэ я ўбачыў, што Грэцыя рыхтык такая, якой я ўяўляў яе па паштоўках тыпу "Прывітанне з Крыма".

Вось расказаць бы пра тое, як мы там працавалі, якія раманы ўзнікалі ў кінагрупе — гэта было б цікава...

**— Але "Дзікае паляванне караля Стаха", містычны фільм жахаў, — гэта ўсё-ткі жанравае кіно?**

— Для мяне — аўтарскае. Уладзімір Караткевіч напісаў гэтую аповесць, ад якой немагчыма адарвацца, гадоў у 19—20. Гэта тыповы чорны гатычны раман. А мы ў сцэнарыі сёе-тое прыбралі, знялі некаторыя дэтэктыўныя хады, агалілі сутнасць. Нас з Караткевічам радніла тое, што некалі называлася грамадзянскай пазіцыяй — стаўленне да жыцця, светаадчуванне. "Дзікае паляванне караля Стаха" — гэта паляванне на людзей. Вось у чым сіла гэтай рэчы. Гэта — ланцуг снабачанняў, сэнс якога зашыфраваны, але калі паспрабаваць зразумець, то атрымаецца, што чалавек у наш час — дзічына, аб'ект пераследу з боку двухногіх драпежнікаў.

Здымаючы кіно, я зняў "архітэктурныя лішкі": чараўніцтва, злавесны замак і інш. Паспрабаваў наблізіць карціну да "вялікага еўрапейскага стылю". Гэта не пахвальба, а тэрмін. Для мяне вельмі важна было паказаць, што Беларусь — гэта Еўропа. Не можа такога быць, што за трыццаць кіламетраў адсюль на Захад, у Польшчы — і Капернік, і шляхта, і надзіва высокая культура. А ўзяў 30 кіламетраў на Усход — і нічога няма. Не, і ў нас, на Беларусі, усё было такім самым.

У Караткевіча, калі прымалі фільм, адна кіруючая дама спытала: "У вашых творах нейкія пагоні, дуэлі, пераследы, здані і іншыя неверагодныя падзеі. Вы што, так і ўяўляеце сабе жыццё?" Ён адказаў: "Не. Я трохі прыдурваюся". І замоўк.

Гэта быў час, калі злёгку прыдурвацца было вышэйшым шыкам, прыкметай духоўнага арыстакратызму...

**— Колькі гадоў вы не працавалі на "Беларусьфільме"?**

— Гадоў пяць-шэсць.

**— У сувязі з тым, што студыя не ў стане працаваць?**

— Не, гэта не так. Здымкі ідуць. Усё нармальна. Проста ў Мінску ў мяне засталіся толькі бацькі. На Паўночных могілках. А ў Маскве я выкладаю ў ВГИКу і на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах. Вось цяпер у Мінску зняў такі настальгічны "Краявід з трыма купальшчыцамі" з Рэгімантасам Адамайцісам у галоўнай ролі.

**— Вы вучыце сваіх студэнтаў таму самаму, чаму вучылі вас?**

— Вядома. Мяне, між іншым, някепска вучылі. Маім майстрам быў Якаў Сегель.

**— Па тым, як працуе студэнт, можна меркаваць пра яго будучыню?**

— Можна. Але вельмі цяжка. У кіно важны досвед, рамесніцкая налаўчонасць. Той Валерый Рубінчык, які заканчваў ВГИК, быў, магчыма, смялейшы за мяне сённяшняга, больш нахабны, магчыма, але што ён ведаў? А цяпер на здымачнай пляцоўцы ў мяне ў галаве гудзе маленькі камп'ютэр: ага, маўляў, калі кадр атрымаўся такім, я яго зманціраваю так і так, а калі цямней — то інакш (я ведаю, як), а калі вецер падзьме, я перанясу гэты кадр у пачатак фільма і зраблю з яго прадмову, а другі дубль паўтару ў канцы...

**Гутарку вёў Барыс ТУХ**

*г. Талін, Эстонія*

# "ВЕРАСЫ" 80-Х

Здавалася б, толькі ўчора адзначалі сваё 25-годдзе славутыя "Песняры". Між тым, прайшоў ужо цэлы год. Але сёлета падчас III Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі такую ж дату адсвяткавалі і "Верасы" — таксама мэтры беларускай эстрады. Праўда, не раўнуючы з "Песнярамі", ад колішняга ансамбля "Верасы" засталася, бадай, толькі назва. Узгадаваліся новыя "верасяты", якім Васіль Раінчык рашуча перадаў руль кіравання калектывам. Цяпер ансамбль узначальвае сын Васіля Раінчыка ды Ірыны Цвятковай — Сяргей Раінчык. "Сяргей і ягоная каманда" прапануюць гледачам і слухачам новую музыку — стыльную, модную, сучасную, напорыстую...

А мы згадваем былых "Верасоў": гэтыя здымкі зрабіў вядомы беларускі фотажурналіст Яўген Коктыш у красавіку 1981-га. Тады "Верасы" суправаджалі на гастролях у Мінску незабыўнага Дзіна Рыда. Маленькі "верасёнак" Сяргей Раінчык, як сведчыць фота, тады яшчэ ў літаральным сэнсе хадзіў пешкі пад стол. Каб зазірнуць у яго гарэзлівыя дзіцячыя вочкі, Дзіну Рыду давялося не толькі прысесці, але і крыху прыгнуцца.

Саша Ціхановіч, Ядзя Паплаўская, Васіль Раінчык. Такімі былі "Верасы" пачатку 80-х. Настальгія, настальгія...

**Вольга БРЫЛОН**

*Фота Я. КОКТЫША*







# "...ЗБІРАЎСЯ СКАРБ"



**Ёсць у Якуба Коласа такія паэтычныя радкі:**

Ад роднае зямлі,
Ад гоману бароў,
Ад казак вечаровых,
Ад песень дудароў...
...Збіраўся скарб.

**Добра адлюстроўваюць гэтыя радкі сутнасць працы навуковых супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, што ствараецца ў рэспубліцы. За чатыры гады работы імі сабрана каля сямідзесяці унікальных народных музычных інструментаў. Вырашана, што ўсё гэта не будзе ляжаць у запасніках, а будзе паказана людзям.**

**Адкрыццё выстаўкі адбылося ў тэатральна-музычнай гасцёўні Уладзіслава Галубка ў Траецкім прадмесці Мінска. Тых, хто прыйшоў на вернісаж, сустракалі народныя мелодыі і песні ў выкананні ансамбля народнай музыкі "Мінскі гармонік" на інструментах, створаных нашымі продкамі.**

*На здымку: іграе "Мінскі гармонік".*

*Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ*

# БЕРАСЦЕЙСКІ МАСКАРАД

**Калі "нашае жыццё — гульня", то зусім магчыма, што таксама і маскарад... А паколькі ў тэатры часта бывае як і ў жыцці, то новая назва рэпертуарнай афішы Берасцейскага тэатра лялек выглядае зусім не дзіўнаю: "Вясёлы маскарад" Ул. Арлова (не блытаць імя гэтага рускамоўнага драматурга з нашым слынным пісьменнікам Уладзімірам Арловым). Гэтай работай на добрай жыццясцвярджальнай ноце БТЛ завяршыў свой сезон, на якую, дарэчы, прыпала некалькі дэбютаў. Так, у складанай справе рэжысуры ўзяўся шчыраваць адзін з вядучых артыстаў тэатра Анатоль Мацвееў. І, па ўсім можна меркаваць, шчыраванні ягоныя прынеслі відавочны плён: поспех "дэбютанта" сцвердзіўся надзвычай жывою рэакцыяй глядзельнае залы. Слодыч апладысментаў упершыню адчулі таксама маладыя артысты тэатра Лілія Хількові і Ігар Верста. А паколькі ніякага вясёлага маскараду не бывае без адпаведнае музыкі, то да яе руку ды сваё натхненне прыклаў "прыдворны" (у сэнсе, тэатральны...) кампазітар Анатоль Багданаў, а вось да пецярбургскага мастака Паўла Міронава ад апладысментаў даляцелі хіба што водгуллі...**

**І. Х.**

# НАТХНЯЕ "КРЫНІЦА"



**Хор народнай песні вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Брэсцкага гарвыканкама "Крыніца" ўжо каля дзесяці гадоў дорыць сваё мастацтва людзям.**

**У рэпертуары калектыву беларускія, рускія, украінскія народныя песні — усяго больш за пяцьдзесят твораў. Спяваюць у хоры каля 30 чалавек.**

*На здымку: хор народнай песні "Крыніца".*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*



Памяць

# "ГЭТАГА Я ХАЦЕЎ БЫ..."

***Калі некага са знаёмых доўга не бачыш, міжволі пачынаеш згадваць яго, хваляваца: мо паехаў ён некуды ці захварэў нечакана?***

***Вядома, так падумаеш толькі пра дарагога і блізкага табе чалавека — таго, каго паважаеш...***

***Такія людзі жывуць не толькі побач з намі, але і недзе далёка. Тым больш радуе кожная іх вестка, няхай і звернутая не да цябе асабіста. Бо ў ёй усё роўна знаходзіш нешта блізкае для сябе, тое, што ўмацоўвае тваю веру ў жыццё, у сэнс абранае справы...***

***Такім, блізкім мне чалавекам і быў пісьменнік-зямляк, паляшук Барыс Іванавіч Сачанка. Друкаваўся ён, "дасылаў" свае звесткі мне часта. Асабліва тады, калі захапіўся вяртаннем у родную літаратуру імёнаў пісьменнікаў-эмігрантаў. Нялёгкая і карпатлівая праца. Але Барыс Іванавіч з ёй спраўляўся і мудра, і самавіта.***

***Часта з'яўлялася на старонках друку яго імя і сёлета. Асабліва з нагоды юбілею выхаду ў свет 12-томнага выдання нашай першай нацыянальнай энцыклапедыі. Ён дзяліўся разважаннямі пра справы і задумкі творчага калектыву выдавецтва, выказваў упэўненасць, што яны стануць прыкметным укладам у культурнае адраджэнне рэспублікі...***

***Але ў быцця свая чарга, свае законы — жорсткія і няўмольныя. Вось і Барыса Іванавіча не стала ў самым зеніце лета і ў самым росквіце яго сіл і здольнасцей — пісьменніцкіх і арганізатарскіх...***

***Пачуўшы сумную вестку, я знайшоў у сваім стале некалькі старонак выступлення Б. І. Сачанкі на рэспубліканскай нарадзе маладых літаратараў у Каралішчавічах у снежні 1982 года. Яно было проста прамоўленым, а я якраз захапіў магнітафон. Пачутае ўразіла "семінарыстаў", бо сказаў Барыс Іванавіч пра галоўнае — пра пакуты творчае працы, пра мужнасць пісьменніка. Сказаў страсна, удумліва, пераканаўча...***

***Гэтае выступленне пакуль нідзе не друкавалася, хоць праз М. Мятліцкага я ў свой час перадаваў адзін экземпляр яго Б. І. Сачанку. Яму такі "падарунак" спадабаўся. Таму без сумненняў выношу тэкст выступлення на суд чытачоў. Згадайма напярэдадні саракавога памінальнага дня гэтага светлага беларуса-творцу, аддаючы даніну павагі зробленаму ім у нацыянальнай культуры і літаратуры...***

**Алесь ЛІСІЦКІ**

*г. Петрыкаў*

Дарагія сябры!

Я сёння хацеў бы пагаварыць з вамі як пісьменнік. І тэму гэтай гаворкі мне падказала тая работа, якую я раблю ў апошні час...

Выдавецтва папрасіла ў мяне скласці вялікі аднатомнік выдатнага савецкага рускага пісьменніка Міхаіла Булгакава. У гэтай сувязі была выказана просьба ўключыць у гэты аднатомнік не толькі тыя творы, якія ўсе ведаюць, але і пакуль што мала вядомыя.

Такія творы ў Булгакава ёсць. Іх шмат. І я ўяўляю тую радасць, якая чакае ўсіх вас у будучым. Таму што мы ведаем гэтага пісьменніка як аўтара "Мастера и Маргариты", "Театрального романа", іншых твораў. Але мы мала ведаем яго як выдатнага сатырыка — не толькі драматурга, але і празаіка.

Рыхтуючы гэты аднатомнік, я не толькі для сябе, скажам, прачытаў многае ўпершыню. Але прачытаў і тое, што пісалі пра гэтага пісьменніка людзі, што жылі побач з ім, якія хто дапамагаў, а хто перашкаджаў Булгакаву стаць пры жыцці тым, кім ён стаў пасля сваёй смерці.

Жыццё ў літаратуры вельмі і вельмі складаная рэч, каб вы адразу ведалі. І дастойна пражыць у літаратуры, на жаль, не кожнаму ўдаецца. Вы ведаеце, што побач з Пушкіным быў Булгарын, з Моцартам — Сальеры. Я мог бы прадоўжыць так да сённяшніх дзён...

Ёсць заўсёды таленты і ёсць губіцелі талентаў. Ёсць тыя людзі, якія памагаюць другім, і ёсць тыя, хто перашкаджае другім...

Я ўспомніў Булгакава. Гавару вам пра гэтага пісьменніка, і тут жа згадаў тыя часіны, калі я працаваў у часопісе "Полымя" і мы па-новаму адкрывалі Максіма Гарэцкага.

У Гарэцкага ў нечым быў падобны лёс з лёсам Міхаіла Булгакава. Лепшыя іх творы — раманы, п'есы, апавяданні — пры жыцці не былі надрукаваны. Яны засталіся ў рукапісах дзякуючы таму, што, як кажуць, рукапісы не гараць.

Добрае, створанае пісьменнікам — яно не гіне. Яно насуперак усяму таму, што робіцца, каб схаваць гэты талент, усё-ткі прабіваецца, прарастае. І пісьменнік становіцца тым, кім ён быў...

Рыхтуючы калісьці ў "Полымі" некалькі публікацый М. Гарэцкага, а потым удзельнічаючы ў рабоце над чатырохтомнікам (зараз АН рыхтуе яго, я таксама прымаю ўдзел у гэтай працы), я прачытаў многія творы, якія, можа быць, будуць надрукаваны праз 20—30 гадоў. А можа, і пазней.

Сёння яшчэ не час. Гарэцкі настолькі, як і Булгакаў, пісаў з запасам "прочности", настолькі многае бачыў яшчэ ў 20—30-ыя гады, і так далёка бачыў, што на сённяшні дзень мы пра тое баімся гаварыць. Бо яно вельмі баліць усім нам...

Чытаючы рукапісы, чытаючы творы, я чытаў і тое, што было надрукавана пра гэтых людзей некаторымі, на жаль, так сказаць, таксама пісьменнікамі, на жаль, таксама членамі СП.

Разумееце, акрамя таго, што яны пісалі ў друку, я чытаў і тое, што яны пісалі на рукапісах і куды гэтыя рукапісы потым аддаваліся...

Гарэцкі, як вы ведаеце, трапіў у Сібір, там і загінуў. Булгакава лёс склаўся трошкі



лепей. Хоць яго і абклалі з усіх бакоў далёкія ад літаратуры людзі (яны любілі сябе, яны не ведалі, што такое літаратура і што такое талент; яны думалі, як бы толькі заўважылі іх саміх, як бы атрымаць нейкія дабрoты), якія губілі таленты. Гэтыя людзі пісалі такія рэзалюцыі і з гэтымі рэзалюцыямі творы траплялі ў такія ўстановы, дзе адносна гэтых вялікіх талентаў, вялікіх пісьменнікаў прымаліся адпаведныя меры...

Булгакаў, бачачы, што ён абкладзены, рашыўся напісаць пісьмо Сталіну. Сталін глядзеў яго п'есы, цаніў яго як таленавітага чалавека. Дзякуючы гэтаму Булгакаў не трапіў у Сібір, астаўся ў Маскве і дажыў да сваёй смерці...

Разам з людзьмі, якія травілі таленты, былі ўсё-ткі сапраўдныя пісьменнікі, сапраўдныя крытыкі, сапраўдныя цаніцелі літаратуры, якія вельмі высока гаварылі пра пакрыўджаных пісьменнікаў. Быў Фадзееў, які ў самыя цяжкія для Булгакава хвіліны наведаў яго дома. І напісаў такое пісьмо, якім мы можам ганарыцца. Так, былі людзі, якія разумелі, хто такі для савецкай літаратуры Булгакаў...

У самыя змрочныя часы, як я ведаю, калі Гарэцкаму забаранялася нават перапісвацца, яму пісалі пісьмы Якуб Колас, Янка Купала. Дарэчы, яны яго вельмі высока цанілі...

Я гавару пра гэта сёння невыпадкова. Таму што калісьці, калі я прыйшоў на працу ў часопіс "Полымя", я спаткаўся з тымі людзьмі, якія дружылі ў 20—30-ыя гады. А потым, у сілу розных абставін, трапілі таксама далёка, былі адарваны ад літаратуры. Потым яны сустракаліся, з аднымі віталіся, а ад другіх адварочваліся.

І гэта было трагічна. Трагічна, таму што магло жыццё ў гэтых пісьменнікаў скласціся па-другому...

Я гавару пра гэта таму, што вы таксама ўступаеце ў літаратуру. І я хацеў бы, каб вы цанілі адзін аднаго. Цанілі свой талент, а таксама цанілі талент таварыша. І калі некаму пашанцуе больш, — а ў літаратуры гэта бывае: бываюць удачы, бываюць няўдачы; адзін у 20 гадоў можа стаць ледзь не класікам, а другі можа выявіць сябе гадоў у 70, — каб вы па-мужчынску ці па-жаночы, ці як там складзецца, але як сапраўдныя пісьменнікі спрыялі добраму, не спяшаліся рабіць свае вывады пра некага. І тым больш не спяшаліся абы-што пра чалавека пісаць, гаварыць і г. д...

Я ў пятніцу, два дні назад, атрымаў адно пісьмо. Напісала аўтарка, паэтэса, якая выдала кніжку, пра другую, якая таксама напісала кніжку. Сем гадоў працую ў СП, але такога брыдкага пісьма не давялося браць у рукі (а таксама за 26 гадоў працы ў літаратуры). Пісьмо не пра тое, што вось харошы чалавек, харошая паэтэса, падтрымайце і г. д.

Пісьмо другога парадку. Напісана, што вось такую вы збіраецеся прымаць у СП і таму мушу вам сказаць, што гэта вельмі дрэнны чалавек, дрэнны паэт...

Канешне, я сам ведаю цану адной і другой паэтэсе. І не трэба гэтыя памыі, якія ў некага недзе былі, выліваць, выносіць у СП. Тым больш мяшаць другому чалавеку, каб яго па-належнаму ацанілі...

Я лічу, што дрэнныя людзі не могуць быць добрымі пісьменнікамі. Добрым пісьменнікам будзе толькі добры чалавек.

Як вы ведаеце з літаратуры, з гісторыі літаратуры, такімі людзьмі былі Леў Талстой, Пушкін, нашы Купала і Колас. Толькі чыстая душа можа стаць сапраўдным талентам. Душа, якая любіць другіх людзей, якая жадае дабра людзям...

Я ўспамінаю многія сустрэчы з выдатнымі пісьменнікамі, якія намаляваны тут на карціне, якіх пашчасціла нам бачыць, чуць...

Я ведаю Максіма Танка, з якім мне пашчасціла больш 20 год працаваць — спачатку ў "Полымі", а потым у СП.

Я меў цікавыя сустрэчы з Лыньковым, Броўкам, Куляшовым, Крапівой (я некалькі тыдняў быў у яго ў бальніцы). Гэта людзі вялікай душы. Але я ведаю, колькі гэтым людзям папсавалі крыві некаторыя літаратары...

Я ўспамінаю тыя хвіліны, калі проста наліваўся крывёй Іван Мележ, калі гаварыў пра людзей, якія бракавалі яго кніжкі — выдатныя кніжкі яго апавяданняў. Яны ў сілу розных абставін — ці то групавых, ці ад таго, што чалавек не дарос, каб успрымаць літаратуру, успрымаць яго творы, — укарачалі яму век...

Я ўспамінаю некаторыя размовы з Міхасём Ціханавічам Лыньковым, калі ён расказваў, як, ён казаў "недаразвітыя", крытыкі ўсяляк шкодзілі яму і чаго гэта яму каштавала...

Я гавару пра гэта, каб кожны з вас падумаў, уступаючы ў літаратуру, што жыццё ў літаратуры надзвычай складаная справа. Як і жыццё наогул...

І я хацеў бы аднаго: каб вы дастойна пражылі жыццё ў літаратуры і каб вас успаміналі самымі добрымі словамі. Каб вы памагалі расквітнець не толькі свайму таленту, а памагалі таксама талентам другім, сваіх таварышаў, якія будуць побач з вамі — старэйшыя ці маладзейшыя. Толькі ў гэтай харошай падтрымцы, у гэтым добрым таварыстве хочацца спяваць і лёгка спяваецца...

Калі ж у сілу нейкіх прычын вы адчуеце, што з вас не атрымліваецца тое, што вы хацелі, — не перашкаджайце другім. Спакойна, па-мужчынску адыдзіце і парадуйцеся поспеху сваіх таварышаў.

Гэтага я хацеў бы...

# ЭКС-ПАЗІЦЫЯ ВІЦЕБСКАЙ АКВАРЭЛІ, альбо ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НОВАЙ СУПОЛКІ

Сацыяльная акрэдытацыя віцебскай акварэлі, як мастацкай з'явы, і прэзентацыя суполкі з аднайменнай назвай адбыліся на старажытнай полацкай зямлі ў цёплы чэрвеньскі дзень на галерэі і ў выставачнай зале Музея кнігадрукавання. Унікальна, што крыху меней чым за паўстагоддзя свайго развіцця з'ява гэта стала вядомай сучаснаму гледачу, сфармавалася ў адзіны стылістычны напрамак.

У суполку "Віцебская акварэль" увайшлі прадстаўнікі розных ўзростаў і творчых лёсаў, працуючыя, часам, у стылістычна і тэматычна супрацьлеглых плоскасцях: Людміла Воранава, Фелікс Гумен, Мікалай Драненка, Уладзімір Іваноў, Аляксандр Карпан, Анатоль Ільіноў, Алег Кастагрыз, Віктар Лук'янаў, Міхась Ляўковіч, Валянціна Ляховіч, Уладзімір Напрэенка, Яўген Панамарэнка, Іван Сталяроў, Вікенцій Ральцэвіч, Рыгор Танковіч, Уладзімір Шапо, Ігар Шкуратаў, Генадзь Шутаў, Аляксандр Шыёнак. У наш надзвычай складаны час гісторыя, на жаль, быццам бы зноў імкнецца нас пераканаць: "Fames artium magister" — "Голад — настаўнік мастацтваў"! І таму сёння, калі мастак, па сутнасці, пакінуты на волю лёсу, адзіным шляхам да выжывання можа быць аб'яднанне. Суполка "Віцебская акварэль" не імкнулася схавацца за гучнай назвай ці аўтарытэтам сусветнавядомай мастацкай школы. Амаль усе яе сябры з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў Беларусі, неаднойчы заяўлялі пра сябе як пра сапраўдных майстроў акварэлі.

У кожнага з іх дакладна акрэслены прыярытэты ў мастацтве. Віцебскія акварэлісты пазбаўлены зададзеных агульных творчых установак, абавязковых мастацкіх прынцыпаў. У творчасці мастакоў суполкі пануе духоўная і творчая разняволенасць, пошук. Адметная рыса суполкі — у яе сканцэнтраванасці на пэўным менталітэце, на традыцыі, якую яна нясе як сцяг, у якой яна жыве і, адначасова, стварае і развівае. Цікава, што побач працуюць тыя, хто распачынаў традыцыю, стаяў ля яе вытокаў, і тыя, хто сёння абапіраецца на гэтую спадчыну, шукае ў ёй новых актуальных рысаў мастацкай выразнасці. І можна спадзявацца, што віцебскія мастакі створаць падмурак трывалага развіцця акварэлі на Беларусі. У шэрагу выстаў суполкі, а іх адбылося ўжо чатыры, упершыню так выразна і пераканаўча акварэль гучыць, як паўнапраўны від жывапісу. Актуальнае пытанне аб далучанасці яе да графікі ці жывапісу ў канцы XX стагоддзя "Віцебскай акварэллю" вырашаецца на карысць апошняга.

Альтэрнатывы гэтаму аб'яднанню няма ні ў бліжэйшым, ні ў далёкім замежжы. Усялякі пачатак цяжкі. "Ад каласоў да пірагоў далёкі будзе шлях", — казалі ў глыбокай старажытнасці. Як з'ява, "Віцебская акварэль" знаходзіцца недзе на шляху да сваёй сталасці, як суполка — толькі пачынае жыць. Наўрад ці яе чакае роўная бясхмарная будучыня, тым больш, што гэта зусім не аднародная з'ява. І ўжо першыя крокі паказалі, што праблем шмат. Так, напрыклад, несупастаўляльна захоўваць роўную прадстаўнічасць на выставе кожнага з мастакоў і адначасова вытрымаць дастаткова высокі агульны ўзровень экспазіцыі.

Сёлетняя выстава ў Полацку гэтым і грашыла. На жаль, трапілі ў яе кампазіцыю даволі выпадковыя творы, якія часам "пярэчылі" творчаму іміджу некаторых майстроў. У групавых, "харавых" экспазіцыях, дзе кожны мастак прадстаўлены ўсяго 2—3 працамі, падобная недальнабачнасць недапушчальная. Тым больш яна недарэчная падчас прэзентацыі суполкі.

Урэшце, паспрабуем азначыць асноўныя рысы і адметнасці віцебскіх акварэлістаў. Сярод іх надзвычай цікавыя аркушы У. Шапо, дзе аўтар трансфармуе натурную форму, удала падпарадкоўвае яе адзінаму стылістычна-вобразнаму ладу. Выкарыстоўваючы сакавіты колер, мастак, тым не менш, імкнецца захаваць светланоснасць і лёгкасць акварэлі. Кампазіцыйна і каларыстычна глядзяцца і серабрыстыя пейзажы новапалачаніна Р. Танковіча. Уласнае пачуццё гармоніі свету і адначасова імкненне дакрануцца да класічнай музычнай спадчыны, да велічы таленту італьянскага кампазітара, скрыпача і дырыжора ўдала пераплятаюцца ў рытмічна-меладычнай кампазіцыі нацюрморта А. Карпана "Памяці Вівальдзі", набліжаючы твор да глыбокай мастацкай метафары. Спроба парушыць звыклыя часова-прасторавыя межы, узняцца над рэальнасцю і канкрэтыкай гісторыі, наблізіцца да эпахальнага Вялікага часу дапамагаюць М. Ляўковічу ўбачыць і вобразна асэнсаваць спрадвечнае і сучаснасць. (Кампазіцыя "Полацк"). Пабудова складанай архітэктурна-пейзажнай прасторы падтрымана арганізацыяй кампазіцыйнага рытму, стрыманым каларытам і аздоблена выяўленча-выразнай тэхнікай, якая ўкрывае вобраз старажытнага горада асаблівай пацінай часу. Пошукі адметнай формы прыцягваюць увагу ў творах Я. Панамарэнкі. Высокі прафесіяналізм і тэхнічнае майстэрства акварэльнага жывапісу вылучае творы Г. Шутава, І. Сталярова, Ф. Гумена, В. Лук'янава, А. Шыёнка.

Пройдзе час і творы сучасных віцебскіх акварэлістаў стануць гісторыяй ды традыцыяй. А пакуль мастакі "Віцебскай акварэлі" жывуць днём сённяшнім, уяўляючы, што канец аднаго дня з'яўляецца пачаткам дня наступнага. А значыць, прыспеў час ладзіць новую выставу.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*Фота У. ВЯНГЛІНСКАГА*



*Сябры аб'яднання "Віцебская акварэль"*

# З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ

Сучасныя мастацтвазнаўцы даўно заўважылі і апісалі старадаўнюю ўсходнюю традыцыю — мастак глядзіць на свет нібы зверху, з вышыні птушынага палёту. Таму ў такіх работах няма перспектывы (у еўрапейскім сэнсе разумення), мастак не знаходзіцца сярод сваіх герояў, не азіраецца наўкол. Ён паглыбляецца ў сутнасць падзей і вобразаў, ідзе праз унутраны зрок і разуменне, праз душу, матэрыялізаваную сімваламі. Дарэчы, сімвалічныя і колеры, кожны з якіх мае не толькі асобную назву, але і суправаджаецца зразумелым толькі дасведчанаму значэннем. Тое ж датычыць узораў, рухаў (таму для разумення таго ж японскага тэатра Кабукі патрэбна, акрамя эстэтычнай выхаванасці, яшчэ і веданне сімвалічнага падтэксту). Усё гэта сталася асаблівасцю традыцыйнага ўсходняга мастацтва (найбольш кітайскага і японскага), якая не менш ярка праяўляецца і ў творах сучасных мастакоў.

Не так даўно ў Нацыянальным мастацкім музеі працавала выстава сучаснага японскага плаката. Гэта не першая экспазіцыя японскага мастацтва на Беларусі. Мінчане знаёміліся ўжо з прыгожай японскай лялькай, з керамікай. Але, тым не менш, выставы мастацтва ўсходніх народаў пакуль застаюцца для нас рэдкімі і таму асабліва цікавымі. Апошняя экспазіцыя, не такая яскрава вытанчаная, як папярэднія, аказалася надзвычай пазнавальнай. Плакат — з'ява міжнацыянальная як дызайн, авангард і г. д. Плакат узнік у межах сучаснага мастацтва як сродак інфармацыйнасці і ўпрыгожання асяроддзя. І ў многім ён адлучаны ад неабходнасці выказвацца праз нацыянальныя, тым больш праз традыцыйныя рысы. Пра гэта сведчаць і пэўныя асаблівасці плакатаў, прадстаўленых на выставе пятнаццаці мастакоў. Дакладнасць і геаметрычнасць Юсаку Камэкура цалкам нехарактэрныя для японскага мастацтва і, дарэчы, дызайна. А графічныя прыёмы, што выкарыстоўваюць маладзейшыя мастакі Кіёсі Авадзу і Кадзумаса Нагай? Ды ў тым і адрозненне ўсходняй псіхалогіі ад універсалізаванай еўрапейскай, што няздольная яна цалкам адарвацца ад традыцый і каранёў. Яны няўлоўна угадваюцца ў нязменных каліграфічных надпісах, якія і раней разумеліся як сэнсавая частка кампазіцыі. Менавіта Японія, "прачытваецца" праз яркія колеравыя спалучэнні і дзе-нідзе ўплеценыя ў кампазіцыю характэрныя постаці. Гэта той жа прынцып: краіна — не вакол, а зверху, з палёту, недасягальная.

Выстава атрымалася, варта адзначыць, надзвычай прыгожая. Гэтаму пасадзейнічаў і выдатны друк плакатаў. Кожны з лістоў, нават калі і не вызначаецца асаблівай кампазіцыяй, ажно зіхаціць і здалёк кідаецца ў вочы. Але ці ж не ў гэтым прызначэнне плакатаў? Наша, беларускае плакатнае майстэрства (згадайма хаця б плакаты Алены Кітаевай) не горшае. Але няма ў нас, на жаль, нават блізу падобных паліграфічных магчымасцей. Таму плакат у нас — як мастацкі аркуш: якасна надрукаваны ў невялікай колькасці, ён можа быць падараваны як сувенір, а не стаць сродкам гарадскога асяроддзя.

І яшчэ адно. Выставу плаката падрыхтавала і прывезла на Беларусь праз павераната ў справах Японіі ў Рэспубліцы Беларусь спадара Акіра Татаяму спецыяльная дзяржаўная структура, якая займаецца выставачнай дзейнасцю. Яна купляе творы сучасных японскіх мастакоў, складае экспазіцыі і дэманструе іх па ўсім свеце — з дапамогай і ад імя дзяржавы. На пытанне ж, ці была альбо ці плануецца падобнага кшталту беларуская экспазіцыя ў Японіі, спадар паверанны дыпламатычна прамаўчаў...

**Н. ШАРАНГОВІЧ**










## КАЛЯНДАР ЖНІЎНЯ

**6 жніўня — 155 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка-дэмакрата Альгерда АБУХОВІЧА (1840—1898).**

•

**7 жніўня — 85 гадоў з дня нараджэння Якуба ЕРМАЛОВІЧА (1910—1987). У 1936 годзе быў рэпрэсіраваны, вызвалены ў 1941 годзе. З 1944 па 1970 год працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў вёсцы Пагост Бярэзінскага раёна. Дэбютаваў у друку ў 1929 годзе. Аўтар кніг аповесцяў і апавяданняў "Над Бярозай" (1960), "Душа чалавека" (1962), "Родная зямля" (1967), "Твар у твар" (1970), "След на зямлі" (1977) і інш.**

•

**14 жніўня — 70 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Сяргея МІХАЛЬЧУКА, які зусім нядаўна пайшоў з жыцця.**

•

**19 жніўня — 85 гадоў з дня нараджэння Алеся ЖАЎРУКА (1910—1942). Першыя вершы апублікаваў у 1926 годзе. Выдаў зборнікі "Ручаіны" (1936), "Дняпро выходзіць з берагоў" (1938). У сааўтарстве з А. Ушаковым для дзяцей напісаў паэмы "Пра майго таварыша" (1939), "Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада" (1939)... У 1960 годзе выйшла "Выбранае", у 1987-ым — зборнік "Крывёю сэрца", у якім, акрамя твораў, прадстаўлены і ўспаміны пра паэта. А. Жаўрук — аўтар (разам з А. Ушаковым) аперэты "Зарэчны барок" (пастаўлена ў 1940 годзе). Загінуў пад Сталінградам.**

•

**20 жніўня — 70 гадоў з дня нараджэння Барыса МІЦКЕВІЧА (1925—1983). Даследаваў заходнюю літаратуру, курс якой выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Не абыходзіў увагай і праблем перакладу. У прыватнасці, напісаў прадмову "Пясняр мужнасці і дабраты" да кнігі паэзіі П. Элюара "З табой" (1980), перакладзеную з французскай мовы Э. Агняцвет.**

•

**24 жніўня — 90 гадоў з дня нараджэння Аркадзя МАРДЗВІЛКІ, пісьменніка, перакладчыка (1905—1986).**

•

**25 жніўня — 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра КОРБАНА (1910—1971). Выступаў у галіне гумару і сатыры. Першыя байкі надрукаваў у рэспубліканскім друку ў 1946. Выдаў кнігі баек, фельетонаў "Мы іх ведаем" (1950), "Байкі" (1953), "Гарачая прыпарка" (1959), "Дзям'янава юшка" (1970) і іншыя. Выходзілі таксама кніжкі гумарыстычных апавяданняў. На беларускую мову пераклаў творы І. Крылова, Лесі Украінкі, Т. Масэнкі і іншых аўтараў.**

•

**26 жніўня — 115 гадоў з дня нараджэння французскага паэта Гіёма АПАЛІНЭРА (сапраўднае імя і прозвішча Альбер Уладзімір Аляксандр Апалінарый КАСТРАВІЦКІ). Род Кастравіцкіх даў літаратуры, культуры і паэта, празаіка, драматурга, перакладчыка, мастака Каруся КАГАНЦА (Казіміра Карлавіча КАСТРАВІЦКАГА). У 1973 годзе ў перакладзе Э. Агняцвет на беларускай мове выйшла кніга Г. Апалінэра "Зямны акіян".**

•

**28 жніўня — 60 гадоў з дня нараджэння балгарскага публіцыста Хрыста БЯРБЕРАВА (1935—1967). На балгарскую мову пераклаў творы Я. Купалы, А. Куляшова, П. Броўкі, раман І. Шамякіна "Сэрца на далоні". У кнізе "Беларускія апавяданні" (1968) змешчаны творы 29 беларускіх пісьменнікаў, узноўленых па-балгарску Х. Бярберавым.**

## НА СТАРОНКАХ "ЧАСОПІСА"

**Сёмы і восьмы нумар гэтага выдання, што выходзіць у Беластоку, здвоены. Змешчаны каляндар асноўных дат на ліпень і жнівень, нататка Я. Юхо "Крэўскае пагадненне", пад рубрыкай "Калісь пісалі" — верш Я. Купалы "Лета", іншыя публікацыі з газет "Наша Ніва" і "Ніва", гутарка з небезвядомым А. Прушынскім, артыкул С. Яновіча "Віктар Швед — сведка эпохі", артыкул пра аўстралійскага беларуса М. Зуя "З думкай пра Беларусь" у сувязі з яго смерцю; нарыс У. Арлова "Мінскі шляхціц" пра беларускага вынаходніка Казіміра Чарноўскага, публіцыстычныя развагі Я. Мірановіча "Калгасы", апавяданне М. Гайдука "Крамола", іншыя матэрыялы. На апошняй старонцы вокладкі "Часопіс" працягвае рубрыку "Хроніка мясцовасці" — публікуецца нататка М. Сахарэвіча "Сураж" — горад, размешчаны на рацэ Нарве, і малюнак Б. Рукоўскага.**

***Зноў пабольшала ахвотнікаў раскідваць на нашым шляху "камяні". Зноў актывізуюцца тыя, хто гатовы адмовіць беларусам у праве называцца нацыяй. Што ж, ці трэба асабліва здзіўляцца гэтаму? Столькі ж часу рабілі з людзей манкуртаў! Аднак найбольш свядомыя, лепшыя з лепшых настойліва ішлі наперад, бо верылі ў Беларусь, у шчаслівы дзень Бацькаўшчыны. Іхняя дзейнасць — напамінак нам, сённяшнім, хто хоча "людзьмі звацца". Напамінак і прыклад... Як і дзейнасць Ігната Дварчаніна, з дня нараджэння якога нядаўна споўнілася 100 гадоў...***

***Як у знакамітай "Новай зямлі" Якуба Коласа: "Куды ні трапяць беларусы". І па волі абставін, калі няўмольны лёс іх, быццам тых пералётных птахаў, закідваў у далёкія краі. І па-цвярозым жыццёвым разліку, калі ўпэўніваліся, што недзе гатовы стварыць ім найбольш спрыяльныя ўмовы. А менавіта так і сталася ў пачатку дваццатых гадоў у Чэхаславацкай рэспубліцы пасля выбрання прэзідэнтам вядомага вучонага, грамадскага дзеяча, гуманіста, прафесара Карлавага універсітэта Томаса Масарыка.***

# ВАБІЛА ЎСЁ СВЕТЛАЕ, ВЫСОКАЕ

Праўда, Масарык спагадна паставіўся не толькі да выхадцаў з Беларусі, а і да ўсіх эмігрантаў з былой царскай Расіі, хто жадаў пакінуць яе, не маючы магчымасці, а часам і не жадаючы прыстасоўвацца да новых палітычных умоў, а то і зусім выступаючы супраць улад. У першую чаргу ён звярнуў увагу на таленавітую моладзь, для вучобы якой у Чэхаславакіі былі шырока расчынены дзверы і таго ж Карлавага універсітэта, і шматлікіх інстытутаў, арганізоўваліся розныя курсы. Юнакі і дзяўчаты не проста прымаліся на вучобу, а і атрымлівалі матэрыяльную падтрымку. Безумоўна, у агульнай колькасці падобных стыпендыянтаў (а іх мелася больш за шэсць тысяч) беларусаў было не так і шмат, усяго 48 чалавек. Аднак у шэрагу іх ці не пераважалі тыя, хто, адарваны ад Радзімы, жыў нацыянальна-вызваленчымі ідэямі, рупіўся аб незалежнасці Беларусі.

З гэтай кагорты Уладзімір Калеснік не без падстаў на тое вылучыў трох: "Уладзімір Жылка, Ігнат Дварчанін і Тамаш Грыб сустрэліся ў Мінску ў 1917 годзе пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Перапісвацца яны пачалі ў Празе з лютага 1923 года. Жылка рыхтаваўся паступіць, а Дварчанін і Грыб ужо другі год вучыліся на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта. Шляхі і лёсы іх былі падобныя, як гэта належала ахвярам вызваленчай ідэі, але і адметныя, бо час быў бурны, жыццё — поўнае неверагодных выпадковасцяў".

Уладзімір Калеснік усё ж на першае месца паставіў У. Жылку як яркага, надзіва самабытнага паэта. Але не лішнім вылучыць і Дварчаніна, якога той жа У. Калеснік правільна называе "другім пасля Тарашкевіча духоўным лідэрам вызваленчага руху Заходняй Беларусі".

Дарэчы, на тэрыторыі Заходняй Беларусі Дварчанін і нарадзіўся. З'явіўся Ігнат Сямёнавіч на свет 8 чэрвеня 1895 года ў вёсцы Погіры Подаўскай воласці Слонімскага павета (сёння Дзятлаўскі раён Гродзенскай вобласці).

Змалку давялося далучыцца да самастойнай працы. Толькі сем гадкоў меў, як узяў у рукі пугу і пайшоў у наймы пастухом. І не толькі таму так рана выбіўся на ўласны хлеб, што калісь гэта быў звычайны занятак для вясковых дзяцей. Трэба было і бацькам дапамагаць — сям'я ж немалая, адзінаццаць душ. Праўда, старэйшыя ўжо, можна сказаць, на ногі сталі, але ж зямлі — курам на смех: нейкіх пяць дзесяцін разам з сенажаццю. Бацька, праўда, аказаўся не "зломкам": арандаваў панскую зямлю, касіў сенажаць "на часткі". "Ды не роўна дзеле Бог": яму заставалася толькі адна частка сена, а шэсць — гаспадару. Думалі ў сям'і, што моцна стануць на ногі, калі ў 1905 годзе ўзялі ў арэнду ажно дваццаць дзесяцін. Разлічваў бацька, што агулам, талакой лёгка апрацуюць яе. І апрацавалі б, ніхто ж не ленаваўся, але ж надзел знаходзіўся за восем вёрст ад Погіраў. Два гады вытрымалі, а пасля ад арэнды адмовіліся.

Але як цяжка ні даводзілася, з сямі гадоў Ігнатка наведваў заняткі ў школе. Непрыкметна прабегла пяць гадоў, бацькі ўжо гатовы былі паставіць "крыж" на яго адукацыі, ды ўмяшаліся настаўнікі. Сказалі: "Не рабіце глупства, з такімі здольнасцямі, як у вашага сына, толькі вучыцца і вучыцца".

Лёгка сказаць — вучыцца! А дзе грошы ўзяць? І ўсё ж пайшоў хлопец у Дзятлаўскую настаўніцкую школу, дзе правучыўся з 1909 па 1912 год. Там рыхтавалі выкладчыкаў для пачатковых царкоўнапрыходскіх вучылішчаў. Адпаведна складаліся і праграмы. Увага звярталася толькі на асноўныя прадметы. І не ў апошнюю чаргу на Закон Божы. Увогуле ўся вучоба вялася пад непасрэдным кіраўніцтвам святароў. Пра родную мову, не кажучы пра замежныя, проста "забываліся".

Ды ўсё ж зерне ведаў было пасеяна ў душы Дварчаніна, з'явілася ў яго і жаданне працягваць вучобу. Таму, калі пасля заканчэння школы з восені 1912 па 1915 год настаўнічаў у вёсцы Хмяльніца Слонімскага павета, настойліва рыхтаваўся да паступлення ў настаўніцкі інстытут. Шмат займаўся самаадукацыяй, хоць неабходныя падручнікі, дапаможнікі ў вясковай глушы было вельмі цяжка знайсці. Знаходзіў іх праз блізкіх і знаёмых, прасіў набыць тых, хто па справах выязджаў у Гародню, а яшчэ лепей, калі нехта завітваў у Вільню.

На жаль, з марай хутка давялося развітацца. Узрост меў прызыўны, а якраз пачалася першая сусветная вайна. Патрабавалася, як кажуць, гарматнае мяса. Не абмінулі і Дварчаніна. Позву ў рукі і на фронт пад Коўну. Яшчэ пашанцавала. Па-першае, трапіў у запасны батальён, а, па-другое, поспех зусім не спадарожнічаў рускім войскам і камандаванне палічыла за лепшае адступаць. Навабранец Дварчанін трапіў ажно пад Цвер. Было гэта ў маі 1915 года. А паколькі для свайго часу Ігнат Сямёнавіч меў не такую і малую адукацыю, яго пасля экзаменаў у Цвярскім рэальным вучылішчы накіравалі ў 1-ю Араненбаўмскую школу прапаршчыкаў. А там навучанне, як і патрабавалі таго ваенныя ўмовы, адбывалася паскорана.

Ужо ў красавіку наступнага 1916 года Дварчанін атрымаў званне прапаршчыка, яго перавялі ў Маскву і гэтым разам таксама ў запасны полк. А ў верасні — дарога на Заходні фронт, дзе знаходзіўся да лета 1917-га. Час — вядома які. Неспакойны, вірлівы. Прайшла Лютаўская рэвалюцыя, грамадства наэлектрызаванае, узнікаюць розныя партыі і кожная з іх імкнецца пераканаць, што толькі яе праграма адзіна прымальная і правільная.

Ігнату Сямёнавічу найбольш спадабаліся ідэі БСГ. Ён не толькі ўступіў у гэтую партыю, але і аказаўся адным з самых актыўных яе сяброў. Безумоўна, як і многіх яго паплечнікаў, Дварчаніна прывабіла арыенціроўка БСГ на адраджэнне Беларусі, яе суверэнітэт. З ліпеня 1917 года ён іступіў на шлях свядомай палітычнай, рэвалюцыйнай дзейнасці. Гэтаму садзейнічала і тое, што апынуўся ў Мінску, у якім, як кажуць, палітычныя страсці кіпелі. Ігнат Сямёнавіч супрацоўнічаў у газеце "Вольная Беларусь", прымаў удзел у з'ездзе беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту.

Дварчаніна выбралі ў Выканаўчы камітэт Заходняга фронту, а яшчэ ён увайшоў у Беларускую вайсковую раду. Нарэшце, чарговы з'езд Беларускай сацыялістычнай грамады. І ўсё ж з тагачасных падзей асабліва глыбокі след у душы маладога прапаршчыка пакінуў Усебеларускі нацыянальны кангрэс. Ігнату Сямёнавічу пашанцавала знаходзіцца ў ліку тых, каго выбралі ў прэзідыум, увайшоў ён і ў ваенную секцыю. Акрамя таго, па даручэнні прэзідыума рыхтаваў газету "Беларуская Рада", у якой выступіў і з некалькімі вершамі. А далей — лёс такі ж, як і ў іншых, найбольш актыўных дэлегатаў: арышт пасля разгону з'езда. Праз некалькі дзён апынуўся на свабодзе. Паўстала пытанне, што рабіць далей. Вырашыў адведаць бацьку, які падаўся ў бежанства, апынуўся ў Новачаркаску.

Як мяркуюць даследчыкі, напрыклад, У. Адамушка ("Беларускі гістарычны часопіс", 1993, N 3, "Ігнат Дварчанін — рэвалюцыянер, гісторык і паэт"), там знаходзіўся да сакавіка 1918 года. І апынуўся на свайго роду ростанях. Паўставала пытанне: да каго прыстаць, на чыім баку змагацца далей? Актывізавалі дзейнасць белагвардзейцы, якія бралі на ўлік ці не кожнага афіцэра. Што з імі не па шляху, Ігнат Сямёнавіч не сумняваўся. Але ж час суровы, ваенны, могуць, як кажуць, і ў "расход" пусціць. Выйсце знайшоў у тым, каб звольніцца з арміі, а да ўсяго атрымаў статус бежанца.

Хто яго ведае, ці ўратавала б гэта Дварчаніна ў далейшым, ці не мабілізавалі б яго ў белую гвардыю Каледзіна, калі б не ўступленне ў Новачаркаск войск Чырвонай Арміі. Дварчаніна выклікалі ў Маскву, прапанавалі працу сакратара культурна-асветнага аддзела Беларускага камісарыята пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР. У Белнацкоме яму давялося працаваць з красавіка па жнівень 1918 года.

Справа ў тым, што незадоўга да гэтага Белнацком перабраўся з Петраграда ў Маскву, але не ўсе яго супрацоўнікі пераехалі, некаторыя засталіся ў Петраградзе, у тым ліку і былыя супрацоўнікі культурна-асветнага аддзела Браніслаў Тарашкевіч і Чэслаў Родзевіч. Узначаліць аддзел прапанавалі выкладчыку лацінскай мовы і гісторыі Мінскай гімназіі (не трэба забываць, што яна яшчэ з 1915 года працавала на новым месцы, у Маскве) Фёдару Туруку. Пошукам кадраў займаўся сам камісар Белнацкома А. Чарвякоў. Алесь Рыгоравіч і накіраваў 6 красавіка 1918 года такую тэлеграму:

"Новачаркаск. Хамутаўскі 133. Дварчаніну. Белкамісарыят збірает лепшых работнікаў для культурна-асветнай працы. Шлем Вам запрашэнне і дакументы для ўезд. Маскву. Абдумайце. Рыхтуйцеся выязджаць. Камісар Чарвякоў".

Гэтыя і іншыя матэрыялы, што тычацца працы Дварчаніна ў Маскве, першым адшукаў у фондах цяперашняга Нацыянальнага гістарычнага архіва В. Скалабан ("Літаратура і мастацтва", N 33, 16 жніўня 1985 г., "Калі ўзышла "Дзянніца"). Да В. Скалабана пра работу Дварчаніна ў Белнацкоме, а таксама аб яго супрацоўніцтве з першай савецкай беларускай газетай "Дзянніца", якая, дарэчы, з'яўлялася органам гэтай арганізацыі, прыводзіліся "толькі агульныя і прыблізныя, а часам і супярэчлівыя звесткі". Пасля ж знаёмства з дакументамі бачна, наколькі вялікая роля належала Ігнату Сямёнавічу па кансалідацыі нацыянальна свядомых сіл, што ў выніку сусветнай вайны, дзвюх рэвалюцый, акупацый Беларусі былі "раскіданы" па ўсёй Расіі. У прыватнасці, на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі к гэтаму часу працавала больш за 300 рознага роду навучальных устаноў, якія ў свой час былі эвакуіраваны.

Як сведчыць В. Скалабан, "Белнацком збіраў пра іх звесткі для таго, каб школы маглі пачаць сваю работу ў вызваленай Беларусі". Звярталася першаступенная ўвага на культурна-асветную работу, а яна, у сваю чаргу, увязвалася з надзённымі задачамі тагачаснага палітычнага жыцця. Безумоўна, як сакратар культурна-асветнага аддзела, Дварчанін атрымаў тут шырокае поле дзейнасці. Праводзіў гутаркі, арганізоўваў сустрэчы. Але разумеў, што куды больш дасць зварот непасрэдна да ўсіх навучэнцаў, у якім бы былі вызначаны асноўныя задачы, што стаяць перад імі, як будучыняй дзяржавы. Так з'явілася адозва "Да вучняў-беларусаў". Паколькі гэты дакумент меў зусім не прыватны характар, а сведчыў і аб пазіцыі Белнацкома, ён разглядаўся на калегіі культурна-асветнага аддзела, што праходзіла 29 красавіка 1918 года.

Адозву адобрылі і прапанавалі апублікаваць у "Дзянніцы", а таксама ў перакладзе на рускую мову. Рускамоўны варыянт з'явіўся ў "Правде" і "Известиях". У ім гаварылася: "Нямецкія войскі занялі нашу краіну і зноў буржуазія села на карак большасці нашых братоў. Нас разбілі, пакінулі на свабодзе меншую частку. Але не трэба адчайвацца, трэба з энергіяй узяцца за работу па наладжванні новага жыцця". Прапаноўвалася, каб вучні звярталіся па дапамогу ў аддзел ды і самі не сядзелі без справы, а стваралі нацыянальныя гурткі. Характэрна, што нават у

"правдинской" публікацыі тэкст адозвы завяршаўся беларускамоўнымі радкамі:

**Вас праца жджэ, народ вас просіць,**
**Вы, вы яго надзея, цвет.**

Водгукі не прымусілі сябе чакаць. Прынамсі, у адным з лістоў, што паступіў у Белнацком, гаварылася: "Вучні-беларусы аддадуць усе свае сілы на карысць роднага народа і краю. У нас няма літаратуры, мы чакаем дапамогі..." Словы, прамоўленыя беларускай грамадой Калугі, былі сугучны меркаванням беларусаў і з іншых куткоў Расіі. Яны выказвалі гатоўнасць на працу ў імя адраджэння Бацькаўшчыны, звярталіся па дапамогу.

На гэты час прыпадае і выступленне Дварчаніна ў "Дзянніцы" з вершамі. Гудок — такі ён узяў сабе псеўданім — заклікаў да веры, што як бы цяжка ні даводзілася, навалач мінецца, Бацькаўшчына стане свабоднай:

**О, няўжо ж табе прыдзецца**
**Згінуць, мой народзе?**
**О, не, не! Глядзі! Здаецца,**
**Штось відаць на ўсходзе:**

**З-за бароў, лясоў на неба**
**Тым ўзышла дзянніца,**
**І раз за разам так патрэба —**
**Болей ўсё іскрыцца.**

**А за ёю гляне й сонца**
**Прамянём яскравым**
**І ўбярэ па ўсёй старонцы**
**Поле, луг й дубравы.**

21—23 ліпеня 1918 года ў Маскве праходзіла нарада настаўнікаў школ Беларусі. У падрыхтоўцы і правядзенні яе самы чынны ўдзел прыняў Дварчанін. А наколькі гэтае мерапрыемства атрымалася, сведчыць хоць бы тое, што на нараду сабраліся і слухачы Беларускага народнага універсітэта, дэлегаты Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі, нават прыйшлі прадстаўнікі ад усерасійскіх настаўніцкіх курсаў.

Самае цікавае, што ў спісе тых, хто ў гэты час заклапочана абмяркоўваў надзённыя праблемы развіцця нацыянальнай школы, а значыць і адраджэння ўсёй Бацькаўшчыны, знаходзім і прозвішча Аляксандра Куляшова, настаўніка, бацькі будучага народнага паэта Аркадзя Куляшова. На нарадзе Ігнат Сямёнавіч выступіў з дакладам. Уяўленне аб гэтым дакладзе можна атрымаць з паведамлення, змешчанага ў "Дзянніцы" (1918, N 27, 26 жніўня). Дварчанін асаблівую ўвагу звярнуў на неабходнасць паважнага стаўлення да роднай мовы, дэталёвага вывучэння беларускай літаратуры. І ўвогуле, падкрэсліваў ён, каб "народ беларускі пазнаў самога сябе і лічыў сябе не нізшым пасярод другіх, а пачуў сябе як роўны з роўнымі", патрэбна пытанні беларусазнаўства ставіць на першы план.

Ігнат Сямёнавіч, як кажуць, не заседжваўся ў кабінетах. Яго часта можна было сустрэць сярод беларусаў Масквы. Не адмаўляўся ён і ад камандзіровак. Адну з іх яму выпісалі 30 ліпеня 1918 года. Меркавалася, што паездка прадоўжыцца да 1 верасня таго ж года. Камандзіравалі Дварчаніна ў Оршу "з даручэннем па справах Беларускага нацыянальнага камісарыята".

Як чалавек дысцыплінаваны, ён, безумоўна, выканаўшы заданне Белнацкома, вярнуўся б назад. Але нечакана змянілася палітычная, а калі канкрэтней — ваенная сітуацыя. Як вядома, у жніўні 1918 года быў падпісаны з немцамі Брэсцкі мірны дагавор. Тым самым прадстаўлялася магчымасць наведацца ў родныя мясціны. Маці ж ён не бачыў ужо тры гады. Прыехаўшы ў Погіры, Дварчанін застаўся там да ліпеня 1920 года. Як крыху асвоіўся, вырашыў без справы не сядзець. У суседняй вёсцы Пецюкі адкрыў прыватную беларускую пачатковую школу.

Праўда, папрацаваць доўга не давялося. Пачалася польская акупацыя. Ігнат Сямёнавіч паступае на настаўніцкія курсы, адначасова арганізоўвае культурна-асветніцкі гурток, стварае хор, тэатральную трупу. Няцяжка здагадацца, якой была арыентацыя мерапрыемстваў, што наладжваліся. Беларуская скіраванасць іх не магла падабацца акупацыйным уладам. Спачатку Дварчаніна папярэдзілі, а калі гэта не дапамагло, арыштавалі і накіравалі ў канцэнтрацыйны лагер у Беластоку. Праўда, яму ўдалося ўцячы. З цяжкасцю прабраўся ў родную вёску, дзе хаваўся ад паліцыі. Калі ў ліпені 1920 года пачалося паспяховае наступленне Чырвонай Арміі, вярнуўся ў Мінск, працаваў у выдавецкім аддзеле народнага камісарыята асветы.

Магчыма б, і надалей знаходзіўся на гэтай пасадзе, работа Ігнату Сямёнавічу падабалася, гэта было тое, што яму імпанавала, але мусіў з Мінскам развітацца. Тут яго маглі прызваць у армію. Дварчаніну ж хацелася працаваць і далей на ніве нацыянальнага Адраджэння, ваенная кар'ера яго аніколькі не вабіла. Перайшоў праз лінію фронту і ў жніўні 1920 года быў у Вільні.

На розных работах давялося працаваць, ды пашчасціла сустрэча з Б. Тарашкевічам. Браніслаў Адамавіч узначальваў канцылярыю беларускага аддзела Дэпартамента асветы. Дварчаніну ён прапанаваў спачатку пабыць пісарам, а ў хуткім часе змог уладкаваць настаўнікам у мястэчку Свір. А гэта і магчымасць займацца і любімай справай, і разам з тым мець сякія-такія грошы. Яны Ігнату Сямёнавічу ў гэты час неабходны былі, як ніколі. Вырашыў экстэрнам здаць экзамены за курс сярэдняй школы, знайшоў рэпетытараў, а тыя бясплатна працаваць не збіраліся.

Нарэшце, вясной 1921 года экзамены былі паспяхова здадзены. Трэба сказаць, што, знаходзячыся ў Вільні, Дварчанін не парываў сувязяў з Белнацкомам, больш таго, выконваў яго даручэнні. Па яго заданні пераехаў у тым жа 1921 годзе ў Латвію. І зноў працягваў займацца актыўнай работай на ніве нацыянальнага адраджэння, дапамагаў арганізоўваць беларускія школы. Не стаяў убаку і ад стварэння Таварыства беларусаў Латвіі "Бацькаўшчына", выязджаў у Дзвінск. Там чытаў лекцыі па беларусазнаўстве на настаўніцкіх курсах, выступіў ініцыятарам аб'яднання тых, хто захапляўся тэатрам — у Дзвінску з'явіўся драматычны гурток. Канечне ж, беларускай арыентацыі. І ўвогуле — "Бацькаўшчына" стала, можна сказаць, своеасаблівай стартавай пляцоўкай, з якой Дварчанін сягаў да новых вяршынь у сваёй дзейнасці. Менавіта сябры гэтага таварыства выбралі яго дэлегатам на беларускую канферэнцыю, што праходзіла ў Празе ў 1921 годзе. Паехаў на некалькі дзён — застаўся да 1926 года. Паступаючы ў Карлавы універсітэт, магчыма, цалкам яшчэ і не ўсведамляў, наколькі павернецца ў далейшым яго лёс, як выбярэ ён сцяжыну, якая дазволіць далей упэўнена, цвёрда ступаць па дарогах Адраджэння.

Сярод выкладчыкаў універсітэта былі прафесар Уладзімір Францаў, загадчык кафедры рускай мовы і старажытнай літаратуры Яўген Ляцкі, Ян Махаль, які чытаў гісторыю рускай мовы і літаратуры. Бадай, асабліва адчувальным стаў на ўсіх студэнтаў-беларусаў і ў прыватнасці на Дварчаніна ўплыў Ляцкага. Яўген Аляксандравіч быў родам з Беларусі, яго маленства прайшло непадалёк ад Барысава, скончыў Мінскую класічную гімназію, філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. У юнацтве захапляўся паэзіяй, марыў стаць паэтам, пасля вабіла проза. Ды не паэтам, і не празаікам стаў Ляцкі, а доктарам філалогіі. І назаўсёды застаўся чалавекам, які не забываўся пра свае карані. Невыпадкова ён з'яўляўся куратарам студэнцкага беларускага зямляцтва ў Празе. Хоць, трэба быць справядлівым, не ўсё так проста адбывалася, як можа падацца на першы погляд. Надаралася, узнікалі непаразуменні паміж студэнтамі і тым жа Ляцкім.

Наконт гэтага слушна сказаў У. Калеснік: "Справа ў тым, што ён (Ляцкі. — **А. М.**) распараджаўся фондам, які адпускаў універсітэт на фінансаванне выдавецкай, культурна-асветнай работы студэнтаў і на дапамогу тым, хто не атрымліваў стыпендыі і не меў належнай падтрымкі з дому (іх звалі недапамогаўцамі). Грошы падагравалі прэтэнзіі і замутнялі ацэнку распараджальніка".

Адбываліся сутыкненні паміж самімі студэнтамі. Не ў апошнюю чаргу з-за палітычных поглядаў. А ў іх з-за таго, якой быць Беларусі ў будучым, як ставіцца да супрацоўніцтва з іншымі партыямі. Тут Дварчанін, які да 1924 года належаў да партыі беларускіх эсэраў, праяўляў як ніхто іншы памяркоўнасць і адначасова абачлівасць. Праўда, гэта яму часам дорага каштавала. Сыпаліся неабгрунтаваныя абвінавачванні, а нярэдка даходзіла і да канфліктных сітуацый. Так сталася, напрыклад, у час адной з вечарын, прысвечаных Кастрычніцкай рэвалюцыі. Марксісты-студэнты, якія арганізоўвалі яе, не проста запрасілі Дварчаніна прыняць удзел, а і выступіць з дакладам. Ігнат Сямёнавіч згадзіўся. Але не прамінуў нагадаць пра тое, што праяўленне вялікадзяржаўнасці назіраецца і з боку бальшавікоў, іншая справа, што цяпер, як сказаў ён, усё гэта афарбавана ў чырвоны колер. Адразу ж Дварчаніна абазвалі нацыяналістам...

І ўсё ж палітыка палітыкай, а гады знаходжання Дварчаніна ў Празе найперш сталі гадамі яго плённай навукова-даследчыцкай дзейнасці. Выпускаў і літаратурны часопіс "Перавясла", у якім выступаў і з уласнымі вершамі, але ўсё больш прываблівала Ігната Сямёнавіча да сябе гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Адначасова ён кінуў пільны позірк у мінулае, яго прывабіла жыццё і шматгранная дзейнасць Францішка Скарыны. Як вядома, на той час гэта была мала даследаваная тэма. Навукоўцы толькі падступаліся да Скарыны. Але за гэты перыяд браліся людзі з імем. Прынамсі, выйшла кніга маскоўскага аўтара П. Уладзімірава "Доктар Францыск Скарына, яго пераклады, друкаваныя выданні і мова", які на той час з'яўляўся ў даследчыцкіх колах прызнаным аўтарытэтам. А тут нікому невядомы студэнт. Ды і не звычайную работу пісаць узяўся, а замахнуўся на дысертацыю "Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве".

Як успамінаў пазней Ігнат Сямёнавіч, "гэтая кніга пісалася па-чэшску як дысертацыйная доктарская праца пры выпуску са Старога Пражскага універсітэта. Хацелася выкарыстаць матэрыял аб ім у месцы (маецца на ўвазе Прага. — **А. М.**), з якім звязана найслаўнейшая пара дзейнасці гэтага нашага гуманіста". І зусім невыпадкова, а свядома ў загаловак сваёй працы Дварчанін вынес словы, якія дазваляюць яскрава ўявіць сабе асноўны накірунак яго даследчыцкіх памкненняў, — "на беларускай ніве".

Не проста пра Скарыну як найвыдатнейшага дзеяча, мысліцеля свайго часу ён пісаў, а гаварыў пра Скарыну суадносна тагачасным задачам беларускага нацыянальнага Адраджэння. Тым самым адраджэнец разважаў пра адраджэнца. І не баяўся, што нехта няправільна яго зразумее. Не абыходзіў вострых момантаў, а наадварот, як бы ўвязваўся ў дыскусію. Ды і не так цяжка было гэта рабіць. Пасля выхаду кнігі Уладзімірава былі ўжо знойдзены новыя дакументы, якія на першадрукара дазвалялі зірнуць інакш.

Абарона дысертацыі прайшла 16 чэрвеня 1926 года. Як і чакалася, не абышлося без наскокаў. Характар яны мелі адзін: непрызнанне нацыянальнай адметнасці беларусаў, пярэчанне супраць таго, каб "вывесці" Скарыну з беларускага кантэксту. Гэта паспрабаваў зрабіць і афіцыйны апанент У. Францаў. Папракнуў ён Дварчаніна і за тое, што той, маўляў, ледзь не дазваляе сабе "пахлопваць па плячы"... Уладзімірава.

Што ж, малюнак знаёмы. І быццам з дня сённяшняга ўзяты, калі таксама знаходзяцца ахвочыя забараняць беларусам заставацца беларусамі. На месцы Дварчаніна іншы хутчэй за ўсё застаўся б у Празе, працягваў займацца выкладчыцкай і даследчыцкай работай. Яго ж шлях пралёг у Вільню (не без падказкі Тарашкевіча). Браніслаў Адамавіч за год да гэтага прыязджаў у Прагу, выступаў перад беларускімі студэнтамі, сярод якіх з радасцю сустрэў свайго колішняга пісара. На той час Тарашкевіч быў паслом у польскім сейме, уваходзіў у так званы Беларускі пасольскі клуб, запрашаў Дварчаніна далучацца да нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

У Вільні Ігнат Сямёнавіч уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду, пасля разгону якой у студзені 1927 года зблізіўся з Антонам Луцкевічам. Уваходзіў у Галоўную ўправу Таварыства беларускай школы, супрацоўнічаў у часопісе "Родныя гоні". Хутка па прыездзе, у 1926 годзе, яго выбралі дэпутатам польскага сейма ад Наваградскай акругі, а з сакавіка 1928 года па жнівень 1930-га ён з'яўляўся сябрам клуба "Змаганне".

Ігнат Сямёнавіч выкарыстоўваў любую магчымасць, каб прапагандаваць нацыянальныя ідэі. Разам з тым ён пастаянна змагаўся за справядлівасць. Праца ягоная на культурна-асветнай ніве хораша раскрылася, калі ў 1927—1928 навучальным годзе выкладаў родную мову ў Віленскай беларускай гімназіі.

Вось што сведчыў пра гэта журналіст і пісьменнік Якуб Міско: "Мы, вучні, неяк адразу адчулі прыхільнасць да гэтага чалавека. Ён не проста выкладаў нам беларускую літаратуру, а стараўся, каб мы і разумелі яе, і любілі. Успамінаецца, як аднойчы ў сёмым класе разбіралася паэма "Сымон-музыка". Вучні гаварылі пра змест твора, пра яго ідэю, характарызавалі галоўных герояў. Дварчанін уважліва слухаў, а пасля падвёў вынікі. Усё гэта добра, хлопцы, гаварыў ён. Я бачу, што вы нядрэнна засвоілі ўрок. Толькі, мне здаецца, "Сымона-музыку" трэба і разумець, і сэрцам адчуваць. Гэта жамчужына нашай літаратуры. Тут кожны радок як быццам бруіцца, струменіць... Кожны яго ўрок станавіўся ўрокам любві да літаратуры, да свайго народа, урокам добрых чалавечых пачуццяў".

А пра тое, як Дварчанін няўхільна змагаўся за праўду і справядлівасць, бачна з гэтага паведамлення, змешчанага ў 1929 годзе (30 красавіка, N 39, "Slowo"): "У нядзелю, апоўдні, мясцовыя, спачуваючыя камуністам арганізацыі, так званай ППСлевіцы і некаторыя беларускія, склікалі ў зале "Макабі" на Наваградскай вуліцы мітынг, гучна названы "антыфашысцкім". Мітынг адкрыў рабочы дзеяч Дзідзюль. Змест прамоў наступных аратараў, паслоў Крыўчыка і Дварчаніна, звярнуў на сябе ўвагу прадстаўніка гарадскога старасты, які, калі Крынчык і Дварчанін не паслухаліся закліку да спынення падбухторвання, аб'явіў мітынг распушчаным... Аб факце роспуску мітынгу і змесце прамоў былі складзены пратаколы, што будуць перададзены пракурору, каб прыцягнуць віноўных да адказнасці" (пераклад з польскай мовы).

Але, як відаць з паказанняў, дадзеных "старшым пшадоўнікам паліцыі Янам Крулікоўскім з следчага аддзела гор. Вільня" судоваму следчаму Віленскага павятовага суда 10 мая 1929 года", Дварчанін працягваў канфліктаваць з польскімі ўладамі: "пасля першамайскіх падзей у Вільні беларускія паслы Ігнат Дварчанін, Флегонт Валынец і Павел Крыўчык штодзённа знаходзяцца ў рабочым асяроддзі, вядуць агітацыю з мэтай выклікаць усеагульную забастоўку пратэсту і антыдзяржаўнай дэманстрацыі". Перад гэтым жа члены клуба "Змаганне" (а з імі, вядома, і Дварчанін) арганізавалі мітынг пратэсту супраць забойства ў час дэманстрацыі камуніста Гірша Руфа, які нёс сцяг партыі. У час той сутычкі было ранена яшчэ 24 рабочыя.

У час працы ў Вільні Дварчанін склаў сваю "Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры" (да 1905 года). Тамашняе Беларускае выдавецтва, з якім ён, дарэчы, цесна супрацоўнічаў, выпусціла яе ў двух варыянтах у 1927 годзе. Асобна пяць кніжак, і таксама ў адным пераплёце. Гэтае выданне цікавае тым, што ўвабрала ў сябе тэксты многіх пісьменнікаў, якія складальнік лічыў вартымі першаступеннай увагі. Па "Хрэстаматыі..." выхоўваліся сотні нацыянальна-свядомых заходнебеларускіх юнакоў і дзяўчат. Прыводзіліся і кароткія звесткі пра жыццё і творчасць аўтараў.

Як палітычна ненадзейны, Дварчанін у жніўні 1930 года быў арыштаваны польскімі ўладамі. У турме ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. Канечне ж, з палітычных меркаванняў. Верыў, што менавіта партыя камуністаў здатна прывесці народ да шчаслівай будучыні. Радаваўся, калі яго ў ліку 40 зняволеных абмянялі на выхадцаў з Польшчы, што адбывалі пакаранне ў савецкіх турмах. З радасцю ехаў і на працу ў Мінск. З лістапада 1932 года з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук, затым выконваў абавязкі дырэктара гэтага інстытута. І ў члены КП(б)Б уступіў.

У ліпені 1933-га заняў пасаду дырэктара, а 16 жніўня таго ж года — арышт... 9 студзеня 1934-га прыгавораны да расстрэлу як удзельнік міфічнага "Беларускага нацыянальнага цэнтра". Праўда, гэтым разам каты ўсё ж злітаваліся. Расстрэл замянілі пазбаўленнем волі на 10 гадоў. Салавецкія астравы, Беламорска-балтыйскі канал... 25 лістапада 1937-га — чарговы прыгавор. Не стала Дварчаніна 8 снежня 1937 года.

У рукапісах пакуль знаходзяцца некаторыя артыкулы яго, як, скажам, "Ф. Скарына ў адносінах да працоўнага народа", "З гісторыі друкаваных выданняў аб Скарыне", "Аб часе нараджэння Скарыны", а яшчэ гістарыяграфічная праца "Спробы апісання біяграфіі аб доктару Францішку Скарыне". А ў гэтай працы — падумаць толькі! — свайго роду каментарыі ажно на 133 працы навукоўцаў усяго свету, хто ў той ці іншай ступені далучаўся да жыцця і дзейнасці нашага першадрукара. Безумоўна, усё гэта чакае надрукавання. Праўда, штокольвек у гэтым кірунку робіцца. Нізка вершаў Дварчаніна апублікавана ў калектыўным зборніку "Ростані волі", у перакладзе на беларускую мову некалькі гадоў назад убачыла свет яго доктарская дысертацыя.

Сёе-тое трапляе ў друк і з архіваў. Прынамсі, у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь на старонках рукапіса пра Ф. Скарыну У. Адамушку ўдалося знайсці верш Дварчаніна "Сланечнікі", які, па ўсім, быў напісаны ў 1925—1928 гадах. Твор, які сваім гучаннем хораша стасуецца і да дня сённяшняга. У згадцы пра сланечнікаў, што ўсё паварочваліся ўслед за сонцам, відочна прытчавасць. Кончылася ўсё тым, што "яны завярнулі ўстрэч карэнні":

**Людцы, паслухайце мужчыну,**
**За сонцам гніцесь, як расліны,**
**Адное мейце на сумленні,**
**Свае карэнні.**

Аб нацыянальных каранях Дварчанін ніколі не забываў. Чалавек акрылены, рамантычна апантаны і цалкам аддадзены Беларусі... У рэшце рэшт, цудоўна сказаў пра сябе ён сам. У адным з лістоў, дасланых 27 снежня 1923 года сябру Уладзіміру Жылку: "Усё светлае, высокае, сільнае — вабіць мяне і чаруе".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" смуткуе з прычыны смерці былога супрацоўніка выдавецтва пісьменніка МІХАЛЬЧУКА Сяргея Апанасавіча і выказае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса "Беларусь" Аляксандру Андрэевічу ШАБАЛІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калектыў рэдацыі часопіса "Беларусь" выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару Аляксандру Андрэевічу ШАБАЛІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аляксандру МЕЛЬНІКАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў шчыра спачувае пісьменніцы Маргарыце ЯФІМАВАЙ з выпадку смерці яе сястры Валянціны.**

Мой родны кут

# НАД ЗЯЛЁНАЙ РАПСОДЫЯЙ — ХМАРЫ

Не першы ўжо раз я заходжу ў гэты домік. Звонку ёг самы звычайны: старэнькі, ціхі, у глыбіні парку, над рачною кручай. Асабліва сюды вабіць заглянуць узімку, калі наўкола ўсё засыпана снегам, калі трашчаць маразы і гуляюць мяцеліцы, — у гэтым доміку жыве вясна. Аднаго года нават маленькая канаплянка не пажадала шукаць сабе цёплы край, а знайшла на час зімы прытулак тут, у зімовым садзе.

Адразу тут нават разгубішся, не ведаючы, чаму аддаць леравагу: сцены памяшкання густа ўвіты плюшчом, да самага даху ўзмахнулі пальмы, лаўравішні, драцэны, акуратна расстаўлены вазачкі і гаршчочкі з маладымі раслінамі. Сапраўдны астравок далёкага поўдня, ды яшчэ ж сярод зімы!

Чаго тут толькі няма: пальмы хамеронс, фінікавыя, веералістыя, лаўры высакародныя, лаўравішні, персікі, лімоны, кіпарысы, магноліі, юкі блакітныя, драцэны, цісы, а самай сярэдзіне зімы зацвітаюць пітасфорумы і аспідаструмы — усяго і не пералічыш. Толькі старых пальмаў тут больш за два дзесяткі; узрост некаторых пазначаны 1912 і 1928 гадамі, а адна нават 1888-м. Выклікае сапраўднае здзіўленне, і гэтае здзіўленне яшчэ больш узрастае, калі ўлічыць, што госці далёкага поўдня тут жа, у зімнім садзе, перанеслі больш суровую часіну, чым любой лютасці зіму: — вайну; няўжо ў фашысцкіх варвараў здрыганулася рука перад гэтай зялёнай рапсодыяй?..

Некалі, яшчэ на часе маіх першых і бадай што мо і зачастых наведанняў гэтага дзівоснага куточка ў Гомелі, тадышняя гаспадынька саду Валя Сідаркова расказвала пра незвычайны подзвіг простай жанчыны ў тыя суровыя ваенныя гады, гамяльчанкі, адзінокай кабеціны.

Вайна прынесла з сабой і холад, і голад, і тысячы людскіх ахвяр. І хто ў той час мог думаць пра гэты зялёны астравок непаўторнага хараства, клапаціцца аб ім?! Аказваецца, думалі, клапаціліся. Сама мерзнучы, кожнай раніцы з ахапачкам дроў прабіралася сюды Прузына Осіпаўна Драгунова. Стаяла першая ваенная зіма, пад самую Маскву падкаціўся фронт, а Прузына Осіпаўна ведала, для каго берагла гэты сад. Зрэшты, яшчэ ж і зіма тая была такой ужо лютасці — страшна ўспомніць сведкам яе: на ляту калелі птушкі, на каранях вымярзалі прысядзібныя сады, нават дзікарослыя дрэвы не ўсе тады пераэімавалі, так і не распусціўшыся вясной. А зімні сад выжыў. Хоць і не поўнасцю, а ўсё ж зберагла яго Прузына Осіпаўна, на сваіх жаноцкіх руках данесла да жаданага і чаканага 26 лістапада 1943-га, а значыць — і да нас, сённяшніх. Каб цешылі вока сваё, каб радаваліся зялёным хараством?

На жаль, сёння Прузыны Осіпаўны ўжо няма — памерла. Гадоў колькі назад яна, пенсіянерка, улетку, бывала, усё яшчэ заходзіла сюды, часам бралася чымколечы дапамагаць маладзейшай Валі Сідарковай, а найперш — прыгожаму чалавеку не можацца без прыгажосці. Бывала, праведае свой зімні сад — і дамоў вяртаецца весялейшаю.

Цяпер у зімнім садзе гаспадыняй маладая дзяўчына Анастасія Шустава, такая ж клапотная і ўлюбёная ў свае пальмы ды лаўравішні як і яе папярэдніцы.

Раней у зімовым садзе як не штодзённа бывала надта ж мнагалюдна: прыходзілі на экскурсіі з інстытутаў і тэхнікумаў, са школ і дзіцячых садкоў, прыезджыя госці, проста гамяльчане. І не кожнаму з наведнікаў вядома было, якой цаной выратаваны гэты сад і хто яго выратаваў...

Тут, аднак, я мушу злавіць сябе на слове, што зашмат гавару ўсё ў мінулым часе. А гэта ж невыпадковасць. І ні ў якім разе не мая даўняя прыязнасць да гэтага унікальнейшага дзіва з колішнімі запісамі ў маім блакноце, а рэалія сённяшняга дня. Рэалія далёка не з вясёлых. Хаця б таму, чаму ў людзей адпала неабходнасць хадзіць у гэты жаданы куточак зямнога раю, чаму абрываецца нітачка чалавецкай паяднанасці з хараством. Бывала ж, адно за дзень па сто, па дзвесце і больш наведнікаў шчаслівілі сябе пад гасцінным дахам зімняга саду. Над гэтай акалічнасцю я меў магчымасць паразважаць з начальнікам участка азелянення парка культуры і адпачынку імя Луначарскага Жаннай Кузьмінічнай Пераход. Нясмачна на душы жанчыны, якая на працягу многіх гадоў прывыкла дарыць людзям кветкавую радасць. Яшчэ б! Толькі а сярэдзіне лістапада атрымаўшы вераснёўскую зарплату. За работу, лічы, ювелірную, дый зарплату па сённяшніх цэнах не Бог ведама якую.

— Чаму людзі перасталі хадзіць у зімні сад? — перапытвае Жанна Кузьмінічна. — А ці да саду ім сёння, калі, займеўшы вольную часіну, чалавек стрымгалоў бяжыць да крамы, у чаргу?.. Прыезджыя? Ну, тыя найперш спяшаюцца на рынак, ці зноў жа носяцца па тых самых крамах. — І паўтарае: — Ці да саду ім сённячы?

Што ж, мажліва яно і так.

А ўсё ж, наведаўшыся ў зімні сад, па даўняй звычцы я ўжо ніяк не мог не зазірнуць і ў аранжарэю. Бо і тут уражанне ані не меншае. Бо і тут адразу аж не верыцца: на вуліцы зіма, а ў цяпліцах ва ўсю цвітуць цыкламены, герані, бягоніі, тут разбягаюцца вочы ад мноства кветак: фуксіі, алоэ, юсціцыі, спарагрусы, плаксініі, ляўкоі зімовыя, прымулы, — пералік далёка няпоўны, а ў цяпліцах знойдзеш кветку нават самую рэдкую. Іх чакае вясна.

На ніжніх стэлажах акуратна расстаўлены тарфагноевыя гаршчочкі, — яны дадуць жыццё пышным сальвініям. Тут жа захоўваюцца вузлаватыя клубні вяргіняў, канаў. Яны таксама пільнага вока патрабуюць. Адносна сальвіній і бягоній — тут работа сапраўды ювелірная. Спачатку мне здалося, што зямля ў скрыначках, дзе іх вырошчваюць, пакрылася тонкім налётам цвілі. Аж гэта і будуць яны, сальвініі і бягоніі. Іх тройчы пікіруюць — перасаджваюць тоненькімі палачкамі, як пінцэтамі. Прызнацца, раней я ніколі сур'ёзна не задумваўся над вырошчваннем кветак, хутчэй за ўсё лічыў гэтую справу чыстай забаўкай. Аказваецца, кветкі — як і хлеб: не меншай карпатлівасці патрабуюць.

Зімні сад... Аранжарэя... Дзень учарашні і сённяшні, — ці будзе ў іх ён заўтрашні?

Міжволі ўспамінаю перад'юбілейную зіму 1967-а. Уяве аж непаддатна было: 600 тысяч кветак тады рыхтавалася ў аранжарэі да вясны юбілейнага года! Яны ўзраслі. А потым на клумбах у парку і зацвілі. Ды як! Скампанаваныя паколерна ў непарушныя сімвалы Краіны Саветаў ды ў дэмагагічныя лозунгі і заклікі жалезнай КПСС, яны (не па сваёй жа волі!) з вясны і да позняй восені праслаўлялі сабою перамаганоснае пяцідзесяцігоддзе "единого, могучего". А вось ці ўшануецца кветкамі памяць тых, хто пяцьдзесят гадоў назад вызваляў Гомель ад фашысцкіх захопнікаў, наогул хто не вярнуўся з вайны ў родны горад? Ці зацвітуць іхняй памяці кветкі па першай гэткай жа юбілейнай вясне — паўвекавой, хаця б і без колішняй пыхі? Здаецца, што не зацвітуць. Па меншай меры, у той колькасці і разнастайнасці.

Прынамсі, на зіму былі закрыты чатыры цяпліцы — няма чым абаграваць, засталося тры, дык і тыя ліпеюць у аварыйных пабудоўках. Адкуль жа ўзяцца тым кветкам? Усё ж, як сцвярджае Жанна Кузьмінічна, палавіна тых, колішніх, юбілейных, мо і набярэцца к вясне. Так, усяго палавіна. Ад сілы, дый то калі яшчэ зусім не памерзнуць ад халадоў, калі ўдасца ўратаваць іх сіламі энтузіястаў, амаль ці не такіх жа самаахвярных, якой была некалі — у вайну! — Прузына Осіпаўна Драгунова. Зрэшты, а ці ўсё залежыць толькі ад іх, калі ўжо ва ўсю зачадзела гібельнай небяспекай і над усім паркам? Калі над зялёнай рапсодыяй горада чорна і наросхрыст ужо захадзілі хмары кашмарнага вынішчэння?

Яшчэ на пачатку восені на стол загадчыцы гарадскога аддзела культуры Лідзіі Клімаўны Сайковай паклаў заяву на звальненне з работы дырэктар парку Леанід Аркадзьевіч Партноў. На большае сіл не хапіла. Абрыдла бесталкова хадзіць, абіваючы парогі розных начальнікаў і начальнічкаў і ўніжальна выпрошваючы ў тых на патрэбы парку то тое, то гэтае. Ну, дык біўся, біўся чалавек над праблемамі — не сваімі ўласнымі, а ўсяго горада, яго вабнасці, прыстойнасці і гонару, — анічога не дабіўся, а тады і падаўся да гэтай апошняй інстанцыі — пісаць заяву на звальненне з работы. Праўда, працуе яшчэ і дагэтуль, але ці ж гэта работа ўжо, тая, якая б павінна адпавядаць самой сутнасці ягоных абавязкаў?

Між іншым, раней у парку працавала шмат кветкаводаўпенсіянераў. Заўважце, не чыноўнікаў, а тых, хто на працягу ўсяго года карпеў у цяпліцах, на клумбах і газонах, ствараючы прыгажосць, а значыць — і светлае аблічча горада, — усіх пазвальнялі, пайшлі людзі пад графу "па скарачэнні штатаў", хоць іх умелыя рукі былі ў парку ой як не лішнімі. Але ж, але ж... Часінамі нават самымі лепшымі ніхто з работнікаў парку ніколі не мог пахваліцца сваім заробкам. Вадзіла людзей на работу хутчэй за ўсё чуццё любові да прыгожага і ўсведамленне таго, што багаццем сваім душэўным ты дзелішся з такімі ж прыгожымі сэрцамі, як і ў цябе, — сёння гэтым людзям у гарадской казне наогул не знайшлося грошай на зарплату, паўторым пры гэтым, ці не самую мізэрную.

Што, такім чынам, значыць, сэканомілі? Ат, маленькае крыху. Не болей таго, на якім, як у народзе талкуецца, капейчына рубля пашаноўвае. А тым самым і па самым вялікім рахунку ці не абкрадваецца ўвесь горад і ўсе яго госці?..

Дык што ж ўсё-ткі дзеецца з паркам?

Па горадзе ўжо даўно і напорыста ходзяць небеспадстаўныя чуткі, што, бачыце, ягоныя таты і мамы, не жадаючы ўтрымліваць на сваім балансе нахлебніка — г. зн. паркавую гаспадарку, падумалі і рашылі проста адмахнуцца ад яе. Праўда, не без выгады для сябе. А дзеля адводу вачэй, аднак, нібыта падзяляючы яе на сферы ўплыву паміж якімісь пакуль што інкогніта-структурамі. А карацей і канкрэтней — распрадаць. Па частках. Каб потым і канцоў не знайшлося. Балазе, вопыт маюць. Во, даўмеліся ж збыць камерсантам адзіны грамадскі туалет па праспекце Леніна, так званы "гомельскі метрапалітэн". Прадалі... пад прысмакі. Самыя розныя. Як свае, так і з замежнымі наклейкамі. Так што не будзе нічога дзіўнага ў тым, калі ўжо юбілейнай вясной памяці вызваліцеля горада пад векавымі старадрэвінамі парку замест кветак замільтусяць шарэнгі гандлярскіх "вулеяў" і "сабачнікаў", а ў самім зімнім садзе пад яго раскошнымі пальмамі важна рассядзецца, магчыма, заезны, а хоць бы і сваёй гадоўлі буржуін ад камерцыі. І будзе яму пачувацца там, вядома ж, намнога прыстойней і харашэй, чымся ў туалеце. Так, так, і нічога ў тым дзіўнага не будзе ў наш дагары нагамі перакулены час. А дзіўнае і дужа ж нясмачнае адгукнецца ў тым, што горад, страціўшы парк, адначасова страціць і сваю некаранаваную эмблему — сваё зялёнае аблічча, і ўвачавідкі пакоціцца ў статус суцэльнага мікрараёна, так добра вядомых нам бязлікасцю сваіх шэрых "шпакоўнікаў".

... Калі здарыцца каму з вас пабываць у Гомелі, загляніце ў зімні сад, зайдзіце ў аранжарэю. Зноў жа — пакуль яна яшчэ ёсць. Упэўнены: назад вы вынесеце светлую ўсмешку — як з самой вясны. І няхай не здасца вам гэта пустой забаўкай — вы адчуеце на сабе, што пабагацелі душой; і не палічыце гэта марнай тратай часу — тым самым вы зробіце вялікую справу; ужо адна ваша цікавасць да гэтага запаветнага куточка зямнога раю ў Гомелі, напэўна, так думаю, адвядзе бяду ад яго, перакрые дарогу вандалізму, што з мяшкамі грошай нахабніста напаўзае на тое наша святое, што не прадаецца ані за якія даляры, чым ганарыцца мне і табе, на чым расці і харашэць дзецям!

**Іван КІРЭЙЧЫК**
*г. Гомель*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Яны казалі:

— Так, ён надрукаваў першую беларускую кнігу, але ж гэта была кніга рэлігійнага зместу і вучыўся ён у езуітаў...

Яны казалі:

— Так, ён аўтар самай пранікнёнай музычнай п'есы пра развітанне з беларускай зямлёй, але ж па пашпарту ён быў паляк...

Яны казалі:

— Так, ён праславіў на сваіх палотнах родны горад, але ж дзе вы бачылі, каб у паветры лёталі людзі, прычым старыя яўрэі, — абстракцыянізм нейкі...

Яны казалі...

Наколькі збедненай выглядала гісторыя Беларусі ў іх выкладанні.

•

Цётачка з грыўкай на лобіку вучыць, як трэба жыць: рабіце не так, як робіце, а так, як трэба рабіць. Вось бы цётачку з грыўкай на лобіку перакінуць у аэробіку, каб зваліла самоты баласт, не таўкліся б у вузкім лобіку ні Канфуцый, ні Эклезіяст. Пруць і іншыя ў настаўніцы? А як у іх з сямейнымі абставінамі?

•

"Будзь гатоў!" — прывучалі нас з маленстваа ўздымаць руку над галавой. "Хто "за"? — і мы пакорліва цягнулі ўгору рукі. "Слухаемся" — трымаем мы рукі па швах зараз. "Ёсць" — бяром пад казырок. А ці помніць нехта, што можна яшчэ ўперці рукі ў бокі?

•

Як яно ўсё йшло? Спачатку быў камень, тады пясок, тады гліна. На гліне ўзнікалі цывілізацыі, пясок іх замятаў, зноў узнікалі цывілізацыі, зноў іх заносіла пяском. Як яно будзе далей? Каменю хапае...

•

Жанчыны какетлівыя: да сямідзесяці збаўляюць сабе гады, а тады павялічваюць — толькі б уразіць мужчын і дапячы саперніц.

•

Забыты былыя сваркі, святочныя ладзім імпрэзы, зіхцяць трыумфальныя аркі над спаранымі безданямі і мы без замінкі ездзім з бездані ў бездань.

•

Настойліва ўкараняліся "рэвалюцыйныя" імёны, і гэта была не мода — нішчылася генетычная повязь мільёнаў, гістарычная памяць народа. Прыслухоўваюся да імёнаў новых пакаленняў, і радуюся зноў і зноў — ніхто не назваў нават у гонар дзядоў дзяцей сваіх Авангардамі, Рэвмірамі, Віленамі.


ЛіМ Літаратура і мастацтва
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7172.
Нумар падпісаны 10. 8.1995 г.
ЗАКАЗ 3041
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12